ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№2 (59) люты 2016 год
CATHOLICNEWS.BY

# Мы не саапернікі, а браты!

**Папа Францішак і Патрыярх Кірыл падпісалі сумесную дэкларацыю**

*Стар. 2*



## Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч: “Прысутнасць замежных святароў ва ўсім свеце лічыцца ўзбагачэннем Касцёла”

*Стар. 8*



## Як правільна захоўваць пост?

*Стар. 10*



## Што кажа Касцёл пра гіпноз?

*Стар. 11*



## Што? Дзе? Калі?

*Правер свае веды па рэлігіі*

Каталіцкая віктарына

*Стар. 16*

## Біскуп Алег Буткевіч назваў беспадстаўнымі папрокі Каталіцкаму Касцёлу з боку Леаніда Гулякі

*Стар. 5*



# Мы не саапернікі, а браты!

***“Я не толькі за іх прашу, але і за тых, што дзякуючы слову іх увераць у Мяне, каб усе былі адно; як Ты, Ойча, ува Мне, а Я ў Табе, каб і яны былі адно ў Нас, каб свет уверыў, што Ты Мяне паслаў”* (Ян. 17, 20-21). Такімі словамі маліўся Езус за вучняў перад Сваёй смерцю ў аліўным садзе.**

**а. Зміцер Чарнель**, *рэдамптарыст*


Фота sputniknews.com

Адзінства, пра якое Госпад прасіў Айца, не з'яўляецца простай дадзенасцю звыш, але павінна стаць вынікам актыўнай пазіцыі і скіраванай волі людзей, ад якіх гэтае адзінства залежыць. Сёння просьба Езуса яшчэ не выканана, нягледзячы на тое, што воля Божая выразная і зразумелая. Перашкодай адзінству выступае нежаданне ці няздольнасць людзей гэтага адзінства дасягнуць і захаваць. Аднак у нас жыве вера і надзея ў тое, што, паколькі гэтага хоча Бог, такая перспектыва рэальная ў будучыні.

Чарговым крокам у дасягненні адзінства Хрыстовага Касцёла стала сустрэча Святога Айца Францішка з Патрыярхам Маскоўскім Кірылам 12 лютага 2016 г. у аэрапорце на Кубе. Католікі і праваслаўныя, якія ў хрысціянскім свеце з'яўляюцца найбліжэйшымі канфесіямі, ужо шмат дзесяцігоддзяў вядуць багаслоўскі дыялог, шукаючы шляхоў збліжэння. Пачаткам каталіцка-праваслаўнага збліжэння стала сустрэча Рымскага біскупа Паўла VI і Канстанцінопальскага Патрыярха Афінагора ў студзені 1964 г. у Ерусаліме. Пасля гэтага кантакты паміж католікамі і праваслаўнымі аднавіліся на розных узроўнях. Толькі кіраўнік Рускай Праваслаўнай Царквы, якая з'яўляецца найбольшай па колькасці вернікаў сярод усіх праваслаўных цэркваў, прынцыпова адмаўляўся ад сустрэчы з Папам. Галоўнай перашкодай з боку Масквы яшчэ з часоў пантыфікату св. Яна Паўла ІІ называлася праблема грэка-католікоў, якія быццам бы “знішчылі праваслаўныя епархіі ў Заходняй Украіне”. Сустрэча Папы і Патрыярха на Кубе сведчыць, што ў сучасным свеце ўзніклі больш важныя праблемы, якія ставяць на парадак дня патрэбу аб'яднаць намаганні і шукаць кампраміс.

Гэтыя праблемы і пагрозы, якія падштурхнулі Патрыярха Маскоўскага згадзіцца на прыватную сустрэчу з Папам, адлюстроўвае іх сумесная дэкларацыя, падпісаная пасля сустрэчы. У ёй кіраўнікі Каталіцкага Касцёла і Рускай Праваслаўнай Царквы заяўляюць: “Мы хочам аб'яднаць нашы намаганні для сведчання аб Евангеллі Хрыстовым і агульнай спадчыне Царквы першага тысячагоддзя, сумесна адказваючы на выклікі сучаснага свету”.

Да гэтых выклікаў належаць маштабныя ганенні на хрысціянаў у многіх краінах Блізкага Усходу і Паўночнай Афрыкі, дзе “нашы браты і сёстры ў Хрысце знішчаюцца цэлымі сем'ямі, вёскамі і гарадамі”. Гэта таксама абвастрэнне міжрэлігійных канфліктаў, абмежаванне правоў хрысціянаў і іх дыскрымінацыя. Папа з Патрыярхам перасцерагаюць супраць інтэграцыі, якая не паважае рэлігійную ідэнтычнасць: “Будучы адкрытымі да ўнёску іншых рэлігій у нашу цывілізацыю, мы перакананыя, што Еўропа мае патрэбу ў вернасці сваім хрысціянскім каранямʼ”. Звяртаюць кіраўнікі цэркваў увагу таксама на несправядлівае размеркаванне багацця ў міжнародных адносінах, “вялікую патрэбу і беднасць у той час, як матэрыяльныя багацці чалавецтва растуць”, гавораць пра на крызісе сямейных адносін, заклікаюць паважаць права на жыццё і годнасць чалавека.

> **“Адзінства, пра якое Госпад прасіў Айца, не з'яўляецца простай дадзенасцю звыш, але павінна стаць вынікам актыўнай пазіцыі і скіраванай волі людзей, ад якіх гэтае адзінства залежыць”**

Разам з глабальнымі праблемамі ў сумеснай дэкларацыі закранаюцца таксама больш канкрэтныя і практычныя пытанні ўзаемадзеяння Каталіцкага Касцёла і Рускай Праваслаўнай Царквы. “Мы не сапернікі, а браты”, – адзначаецца ў тэксце. У справе грэка-каталікоў з каталіцкага боку вызнана, “што метад “уніятызму” ранейшых стагоддзяў, які прадугледжвае прывядзенне адной супольнасці ў адзінства з другой шляхам яе адрыву ад сваёй Царквы, не з'яўляецца шляхам да аднаўлення адзінства”.

Праваслаўны ж Патрыярх вызнаў за царкоўнымі супольнасцямі, якія з'явіліся ў выніку гістарычных абставінаў, “права існаваць і рабіць усё неабходнае для задавальнення духоўных патрэбаў сваіх вернікаў”. Пры гэтым абодва бакі вызналі недапушчальнасць “выкарыстоўваць нягодныя сродкі для прымусу вернікаў да пераходу з адной Царквы ў іншую, грэбуючы іх рэлігійнай свабодай і іх уласнымі традыцыямі”. Фактычна гэта першы дакумент, у якім Маскоўскі Патрыярх вызнае кананічны статус грэка-каталіцкіх цэркваў.

Такім чынам, у справе дасягнення адзінства зроблены чарговы крок. Сустрэча Папы і Патрыярха Маскоўскага адкрыла новую прастору для супрацоўніцтва і сустрэчы. “Аднойчы я казаў, што калі адзінства будуецца праз адукацыю, вывучэнне тэалогіі і гэтак далей, то як прыйдзе Пан, мы ўсё яшчэ будзем яго будаваць. Адзінства будуецца на шляху, калі мы крочым па ім. Няхай Пан, калі прыйдзе, прынамсі ўбачыць, што мы крочым”, – сказаў Святы Айцец.

> **“Фактычна гэта першы дакумент, у якім Маскоўскі Патрыярх вызнае кананічны статус грэка-каталіцкіх цэркваў”**

Пасля гэтай сустрэчы больш верагодным стаў таксама і візіт Папы Рымскага ў Беларусь. Падпісаўшыся пад словамі, што “католікі і праваслаўныя пакліканыя па-братэрску супрацоўнічаць для абвяшчэння Евангелля збаўлення”, вызнаўшы за Каталіцкім Касцёлам права “рабіць усё неабходнае для задавальнення духоўных патрэбаў сваіх вернікаў”, лагічна чакаць, што Патрыярх Кірыл пагодзіцца на візіт Святога Айца ў нашую краіну.

## Грамадскасць Паставаў падтрымала будаўніцтва ў горадзе касцёла Езуса Міласэрнага

**Грамадскае абмеркаванне будаўніцтва новай каталіцкай святыні прайшло ў Паставах. Звароты грамадзян сведчылі ў падтрымку з'яўлення новага касцёла ў горадзе. Абмеркаванне праходзіла з 26 снежня 2015 г. па 19 студзеня 2016 г..**

Ад жыхароў горада Паставы і Пастаўскага раёна паступіла чатырнаццаць зваротаў у пісьмовай і электроннай формах, у якіх цалкам падтрымліваецца будаўніцтва касцёла Езуса Міласэрнага на вуліцы Касманаўтаў у раённым цэнтры.

Цяпер у Паставах ужо дзейнічае адна каталіцкая святыня – касцёл св. Антонія Падуанскага, які быў пабудаваны ў 1880-1887гг, адабраны савецкай уладай пасля Другой сусветнай вайны, а потым вернуты жыхарам горада ў 1988 годзе.

Гісторыя ж каталіцкай парафіі ў Паставах узыходзіць як мінімум да 1522 года, калі тут быў пабудаваны драўляны касцёл Маці Божай.

*Паводле інфармацыі Пастаўскага райвыканкама, catholic.by*

## Упершыню ўраджэнец Манголіі стане каталіцкім святаром

**28 жніўня маленькая мангольская каталіцкая супольнасць сустрэне свайго першага святара мангольскага паходжання – Джозэфа Энхээ-Батара, які будзе служыць у саборы святых Пятра і Паўла ва Улан-Батары.**



Невялікая каталіцкая парафія (21 чалавек) гарадка Арвайхээр з радасцю ўспрыняла гэтую навіну. Энхээ будзе першым каталіцкім святаром-манголам за ўсю гісторыю незалежнай Манголіі.

Мясцовыя жыхары лічаць, што, прайшоўшы навучанне ў семінарыі ў Паўднёвай Карэі, Энхээ праявіў незвычайную стараннасць.

З'яўленне святароў мясцовага паходжання пасадзейнічае ўмацаванню Каталіцкага Касцёла ў Манголіі: са свецкімі ўладамі будуць ўзаемадзейнічаць не місіянеры-замежнікі, а грамадзяне краіны, ды і на пытанні вернікаў такі святар зможа адказаць больш зразумела, маючы з прыхаджанамі агульныя культурныя карані. Па гэтай жа прычыне Касцёлу будзе лягчэй атрымаць прыхільнае стаўленне грамадскасці, якая з насцярожанасцю глядзіць на пакуль што “чужынскую” рэлігію, бо Манголія – пераважна будысцкая краіна.

*Паводле матэрыялаў Asia News, пераклад krynica.info*

# Беларускія грэка-каталікі пра сустрэчу Папы Францішка і Патрыярха Кірыла:
# “Гэта каштоўны знак сапраўднага братэрства ў Хрысце”

*“Мужна працягваць малітву пра добрыя плады сустрэчы Папы Францішка і Патрыярха Кірыла – праз заступніцтва Апосталаў славян Кірыла і Мятода”*



1. У пятніцу, 12 лютага 2016 г., у Міжнародным аэрапорце ў Гаване (Куба) прайшла двухгадзінная сустрэча Папы Рымскага Францішка і Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Кірыла, якая стала першай у гісторыі сустрэчай Папы Рымскага і Маскоўскага Патрыярха.

Як вядома, на працягу мінулых дзесяцігоддзяў (ад II-га Ватыканскага Сабору), Рымскія папы шмат разоў сустракаліся з патрыярхамі памесных праваслаўных цэркваў. На гэты шлях хрысціянскага братэрства ўвайшоў у Гаване і Маскоўскі Патрыярхат Рускай Праваслаўнай Царквы. Тут варта нагадаць, што ў мінулым першаіерарх Рускай (Кіеўскай) Царквы – мітрапаліт Ісідар, які меў прызначаную рэзідэнцыю ў Маскве, сустракаўся з першаіерархам Рымскай Царквы – Папам Яўгенам IV у 1438–1439 гг. у Ферары, дзе пачаўся Ферара-Фларэнційскі Сабор – XVII Усяленскі.

Вынікам сустрэчы ў Гаване стала падпісанне сумеснай Дэкларацыі. Беларускія грэка-каталікі далучаюцца да словаў Дэкларацыі: *“Прыносім падзяку слаўленаму ў Тройцы Богу за гэтую сустрэчу”*.

Абдымкі Папы Францішка і Патрыярха Кірыла – гэта каштоўны знак сапраўднага братэрства ў Хрысце.

2. Вялікая ўвага падчас сустрэчы ўдзялялася драматычнаму становішчу хрысціян на Блізкім Усходзе, а таксама ў іншых рэгіёнах. У прыватнасці, у 26 пункце Дэкларацыі гаворыцца пра становішча хрысціян ва Украіне.

Хрысціяне на Блізкім Усходзе маюць права на агульнахрысціянскую салідарнасць і дапамогу. Усе жыхары Украіны маюць права на справядлівы мір і шанаванне інтэгральнасці іхняй Бацькаўшчыны.

3. Грэка-каталіцкія душпастыры і вернікі ў Беларусі з асаблівай увагай прачытваюць пункт 25 Дэкларацыі, дзе запісана: *“Спадзяёмся, што наша сустрэча зробіць уклад у прымірэнне там, дзе існуюць непаразуменні паміж грэка-каталікамі і праваслаўнымі. Сёння відавочна, што метад «уніятызму» былых стагоддзяў, які разумеўся як прыяднанне адной супольнасці да іншай, адрываючы яе ад сваёй Царквы, не з'яўляецца спосабам да адняўлення адзінства.*

*У той жа час царкоўныя супольнасці, якія з'явіліся ў выніку гістарычных акалічнасцяў, маюць права існаваць і рабіць усё неабходнае для задавальнення духоўных патрэбаў сваіх вернікаў, імкнучыся да міру з суседзямі. Праваслаўныя і грэка-каталікі маюць патрэбу ў прымірэнні і знаходжанні прымальных формаў узаемнага суіснавання”.*

На самай справе гэта адаптаваны тэкст Дэкларацыі з Баламанд у Ліване, прынятай 23 чэрвеня 1993 г. Міжнароднай камісіяй для багаслоўскага дыялогу Каталіцкай і Праваслаўнай Цэркваў, які быў падпісаны прадстаўніком (святаром) Маскоўскага Патрыярхата, але які не быў прыняты іерархамі Рускай Праваслаўнай Царквы.

Праз подпісы першаіерархаў Папы Францішка і Патрыярха Кірыла тэкст Дэкларацыі з Гаваны атрымлівае найвышэйшае значэнне.

Беларускія грэка-каталіцкія душпастыры моляцца пра магчымасць атрымаць, згодна з тэкстам Дэкларацыі, *“усё неабходнае для задавальнення духоўных патрэбаў сваіх вернікаў”* ды гатовыя ў прымірэнні шукаць прымальных формаў узаемнага суіснавання з праваслаўнымі братамі і сёстрамі – на славу Божую і для дабра супольнай Бацькаўшчыны.

*“Хочам надалей мужна працягваць малітву пра добрыя плады сустрэчы Папы Францішка і Патрыярха Кірыла праз заступніцтва супольных святых – Апосталаў славян Кірыла і Мятода ды пад іхняй апекай дзейнічаць не як сапернікі, а як браты”* – сказаў Апостальскі Візітатар БГКЦ Архімандрыт Сяргей (Гаек) на багаслоўска-душпастырскім семінары, прысвечаным ушанаванню роўнаапостальных Кірыла і Мятода, што прайшоў у Мінску ў суботу, 13 лютага 2016 г.

***а. Яўген Усошын***
*Прэс-служба Апостальскага Візітатара для грэка-каталікаў Беларусі*

# Папа прыняў на аўдыенцыі Леанарда Дзі Капрыа



**“Акцёр і абаронца навакольнага асяроддзя”, – менавіта так акрэсліў сябе на афіцыйнай старонцы ў “Твітэр” зорка амерыканскага кіно Леанарда Дзі Капрыа, якога 28 студзеня 2016 г. прыняў на аўдыенцыі ў Ватыкане Папа Францішак.**

Знакаміты сваёй дзейнасцю ў галіне экалогіі акцёр пажадаў сустрэцца з Пантыфікам, якога лічыць вялікім аўтарытэтам у гэтай сферы, асабліва пасля публікацыі энцыклікі “Laudato si”.

У снежні 2015 г. Дзі Капрыа выступіў на Міжнароднай канферэнцыі па клімаце, якая праходзіла ў Парыжы, а 19 студзеня 2016 г. – на Сусветным эканамічным форуме ў Давосе, падчас якога атрымаў прэмію “Crystal Award” за ўклад у абарону навакольнага асяроддзя.

Як паведаміў журналістам кіраўнік Залы Друку Апостальскай Сталіцы, кс. Фэдэрыка Ламбардзі, аўдыенцыя адбылася па просьбе акцёра і ніяк афіцыйна не асвятлялася.

“Дзі Капрыа шмат займаецца праектамі па ахове навакольнага асяроддзя і звярнуўся з просьбай пра сустрэчу з Папам, якому таксама блізкая гэтая тэма”, – сказаў кс. Ламбардзі, нагадаўшы, што праблемы экалогіі былі ў цэнтры апошняй энцыклікі Пантыфіка “Laudato si”.

Дзі Капрыа, адзін з самых папулярных і высокааплатных акцёраў Галівуда, актыўна займаецца дабрачыннай дзейнасцю ў галіне абароны навакольнага асяроддзя.

*Ватыканскае Радыё*

# Папа Францішак ініцыяваў змены ў абрадзе абмыцця ног

**Папа даручыў Кангрэгацыі Божага Культу і Дысцыпліны Сакрамантаў унесці змены ў прадпісанні адносна абраду абмыцця ног падчас Імшы Вячэры Пана ў Вялікі Чацвер.**

У спецыяльным дэкрэце дыкастэрыі нагадваецца, што гэта літургічная практыка была ўведзена ў 1955 г. разам з рэформай Вялікага Тыдня. Дэкрэт “Maxima Redemptionis nostrae mysteria” прадпісвае, кіруючыся душпастырскімі прычынамі, правесці абмыванне ног дванаццаці мужчынам падчас Імшы Вячэры Пана, што дэманструе пакору і любоў Хрыста да сваіх вучняў.

Здзяйсняючы гэты абрад, гаворыцца ў дэкрэце кангрэгацыі, апублікаваным 21 студзеня 2016 г., біскупы і святары запрашаюцца да наследавання Хрыста, Які “не для таго прыйшоў, каб Яму служылі, але каб служыць” (Мц 20, 28), і Яго любові “дарэшты” (Ян 13, 1), якая праявілася ў адданні жыцця за збаўленне ўсяго чалавецтва.

Змены заклікаюць “прадэманстраваць поўны сэнс абраду”. Да гэтага часу рэкамендацыя, змешчаная ў рубрыках Рымскага Імшалу, гучала: “Прыслугоўнікі праводзяць выбраных мужчын…”.

Пасля змен тэкст гучыць так: “Прыслугоўнікі праводзяць выбраных з Божага народа…”. У дакуменце тлумачыцца, што цяпер “душпастыры могуць выбраць невялікую групу вернікаў, якая ўяўляе сабой разнастайнасць і адзінства кожнай часткі Божага народа”.

Прычым гэтая група можа складацца як з мужчын, так і жанчын, маладых і пажылых, здаровых і хворых, духавенства, манаскіх асоб і свецкіх.

*Ватыканскае Радыё*



Каталіцкі ВЕСНІК №2(59) люты 2016 г.

# Упершыню ў віцебскай катэдры прайшло экуменічнае набажэнства

**22 студзеня ў катэдральным касцёле Езуса Міласэрнага ў Віцебску адбылося экуменічнае набажэнства пад дэвізам гэтага года – "Пакліканыя, каб абвяшчаць вялікія справы Пана" (пар. 1, П 2, 9), падчас якога прадстаўнікі хрысціянскіх Цэркваў і дэнамінацый Віцебска маліліся пра еднасць хрысціян. Адметна, што падобнае набажэнства ў віцебскай катэдры адбылося ўпершыню з часоў заснавання Віцебскай дыяцэзіі.**

■ **Кацярына Лаўрыненка**, *тэкст і фота, catholic.by*



У экуменічным набажэнстве прынялі ўдзел прадстаўнікі Каталіцкага Касцёла на чале з біскупам Віцебскім Алегам Буткевічам, а таксама пробашч віцебскай грэка-каталіцкай парафіі Уваскрасення Хрыстовага протапрэзбітар айцец Зміцер Грышан, прарэктар па вучэбнай рабоце Віцебскай духоўнай семінарыі Праваслаўнай Царквы протаіерэй Дзмітрый Савіч, прадстаўнікі Евангельскіх хрысціян-баптыстаў: пастар Аляксей Альшэўскі з Царквы "Пульс" у Віцебску і пастар мясцовай Царквы "Надзея" Генадзь Ляшчоў, пастар віцебскай абшчыны Пятра і Паўла Евангельска-Лютэранскай Царквы Уладзімір Татарнікаў.

Набажэнства пачалося працэсіяй, на чале якой неслі Святое Пісанне. Сама ўрачыстасць адбывалася пры запаленым пасхале. Былі прачытаныя малітва да Святога Духа, малітвы паяднання і малітвы надзеі.

"Сёння мы молімся пра адзінства паміж хрысціянамі, і гэтае адзінства заключаецца ў наказах Хрыста, якія мы пачулі праз прачытанае слова. Мы ўсе адказныя за выкананне гэтых наказаў, і калі мы ўсе робім агульную справу, гэта нас аб'ядноўвае", – нагадаў у сваёй прамове пастар Царквы "Надзея" Генадзь Ляшчоў.

Пастар Уладзімір Татарнікаў адзначыў: сённяшняе грамадства забывае, што такое вера, і падкрэсліў важнасць сумеснай малітвы, дадаўшы, што ў цяперашніх умовах вельмі важна казаць пра адзінства і выступаць адзіным фронтам у справах веры, маралі і сямейных каштоўнасцяў, "бо ўсе мы закліканыя абвяшчаць укрыжаванага і ўваскрослага Хрыста".

Протаіерэй Дзмітрый Савіч нагадаў, што "малітва Езуса "Каб усе былі адно" – гэта пэўны заклік да нас звярнуцца да Яго, каб пераадолець пыху і жорсткасць нашага сэрца, але не моцай, а толькі Яго любоўю і міласэрнасцю, каб мы маглі стаць тым адзіным статкам, які Ён даручыць свайму ўмілаванаму Айцу – Госпаду нашаму".

Протапрэзбітар айцец Зміцер Грышан заўважыў, што гэтая малітоўная сустрэча – вельмі важная падзея для той будучыні, пра якую мы ўсе молімся – "Каб усе былі адно". Святар адзначыў, што прадстаўнікам розных хрысціянскіх канфесій трэба вучыцца быць блізка адно да аднаго, а таксама бачыць тое "прыгожае і вартае, што кожная канфесія можа прынесці ў Царкву Хрыстову". Святар падкрэсліў важнасць хросту, які з'яўляецца падмуркам хрысціянства.

Віцебскі ардынарый біскуп Алег Буткевіч звярнуў увагу на асаблівы характар гэтай сустрэчы: "Сёння мы не толькі кажам, сёння мы разам молімся з прадстаўнікамі розных хрысціянскіх Цэркваў і дэнамінацый пра так важныя дары еднасці, пра што прасіў Езус у свайго Айца: "Няхай усе будуць адно".

Іерарх адзначыў, што на шляху да еднасці хрысціян часта паўстае перашкода – думка, якім чынам будзе дасягнута гэтая еднасць. Біскуп нагадаў пра важнасць міласэрнасці і прабачэння, асабліва ў Год Міласэрнасці: "Гэта вельмі важна, каб мы ўмелі даравацьь крыўды, якія ўчынілі адно аднаму, і гэта датычыцца не толькі крыўдаў у гістарычным вымярэнні, але і закранае найперш нас у нашым штодзённым жыцці".

Кажучы пра пошук паяднання хрысціян, іерарх падкрэсліў: "Каб паяднацца паміж сабою, мы найперш павінны паяднацца з нашым Айцом – праз пакаянне, праз малітву, праз Эўхарыстыю... Мы павінны шчырым сэрцам шукаць гэтых шляхоў у першую чаргу да паяднання з Богам. І тады тая справа еднасці стане магчымай. Сённяшняя падзея, калі мы можам разам стаяць каля алтара і ўзносіць малітву, – гэта ўжо вельмі важны і выразны знак, што гэтая еднасць магчымая", – падсумаваў віцебскі ардынарый.

Пасля складання абавязку быць соллю і святлом, падчас якога прагучалі словы "Заняcём гэтае святое Слова свету, паколькі мы з'яднаныя ў адной місіі – быць соллю зямлі, быць святлом свету і абвяшчаць вялікія справы Пана", – прысутныя прадстаўнікі рэлігійных супольнасцяў у знак агульнай місіі ўсіх Цэркваў запалілі свечкі ад пасхала як сімвала святла Уваскрослага Хрыста. Напрыканцы набажэнства хрысціяне розных канфесій перадалі адно аднаму сімвалічны знак супакою.

# Капліца побач з фітнесам і аўташколай... У Віцебску паўстала пятая каталіцкая парафія

**Віцебск налічвае сёння каля 400 тыс. жыхароў. Калісьці, перад бальшавіцкай рэвалюцыяй, калі горад быў нашмат меншы, тут было восем каталіцкіх касцёлаў.**

■ **кс. Адам Дынак**



**Пробашч парафіі св. Уладзіслава ў Віцебску кс. Адам Дынак разам са сваімі парафіянамі**

На тэрыторыі сучаснага Віцебска функцыянуюць чатыры каталіцкія святыні. З аднаго боку, гэта дастаткова для той колькасці католікаў, якія тут пражываюць. З другога боку, людзі часта вымушаныя пераадольваць значныя адлегласці, каб патрапіць на святую Імшу. За апошнія восем гадоў паўстала група мікраёнаў пад назвай Білева, дзе ў цяперашні час пражывае больш чым 40 тыс. чалавек.

Мікраёэн пастаянна расце. Католікі з Білева мусяць дабірацца шэсць кіламетраў і больш да бліжэйшага касцёла. У сувязі з такой сітуацыяй былы ардынарый Віцебскай дыяцэзіі біскуп Уладзіслаў Блін у 2008 заснаваў пятую каталіцкую парафію ў горадзе – святога Уладзіслава, да якой належаць мікраёэны Білева і прылеглыя мясцовасці. Быў прызначаны святар з задачай арганізацыі парафіі і будаўніцтва святыні. На жаль, гарадскія ўлады з розных прычынаў не далі дазвол на будаўніцтва касцёла. Таму пасля кароткага прамежку часу раней прызначаны святар быў вызвалены. Некалькі гадоў сітуацыя вісела ў паветры. Католікі з Білева ўдзельнічалі ў святых Імшах у розных касцёлах горада.

Так працягвалася да 2015 года, калі гарадскія ўлады змянілі сваю пазіцыю па гэтым пытанні. Новы біскуп Алег Буткевіч зноў прызначыў святара, даверыўшы яму наноў арганізаваць супольнасць вернікаў і загадаў прыкласці намаганні, звязаныя з будаўніцтвам. 20 снежня 2015 года адбылася першая Імша ў парафіі, у якой прынялі ўдзел 32 чалавекі. Паколькі парафія яшчэ не мае ўласнага касцёла, было арэндавана памяшканне ў офісным будынку па вуліцы Генерала Іваноўскага, 5. Там, у пакоі плошчай 48,5 квадратных метра штодня адпраўляецца святая Імша: у нядзелю – а дзявятай, па буднях – а 18.30. Цяпер, калі гэтая "капліца" існуе менш чым два месяцы, у нядзельнай Імшы ўдзельнічае ад 40 да 50 чалавек. Памяшканне прыстасаванае для літургіі. Тут сціплае абсталяванне, але дастатковае. Ніхто не чакаў, што будуць такія сенсацыйныя пачынанні. Сітуацыя незвычайная: наша «капліца» знаходзіцца на трэцім паверсе і акружана вакол офісамі розных кампаній, пад намі знаходзіцца пакой для фітнесу, а над намі – аўташкола.

Людзі, якія прыходзяць на Імшу, – гэта найперш маладыя асобы, пераважная большасць маладых сем'яў, некаторыя з іх мнагадзетныя. Увогуле, наша парафія мае даволі шмат дзяцей, а значыць, і надзейную будучыню. Ад пачатку лютага пачалася рэгулярная катэхізацыя для дзяцей. У ёй удзельнічае дзесяць чалавек. Праводзіцца катэхеза для дарослых. Парафіяне вельмі зацікаўленыя стварэннем новай уласнай супольнасці. Удзельнічаючы ў розных справах, яны хочуць дапамагаць. З нецярпеннем чакаюць касцёла ў Білеве.

Парафіянка Святалана дзеліцца: "Мы ўпэўненыя, што з Божай дапамогай, малітвай і вернікамі пабудуецца яшчэ адна новая святыня ў Беларусі. Усіх католікоў і іх сем'і, што пражываюць у мікраёне Білева, шчыра запрашаем далучыцца да нашай парафіяльнай супольнасці!"

Што датычыцца будаўніцтва касцёла, то ўладамі была прапанавана тэрыторыя для гэтай мэты. Цяпер патрэбная дакументацыя для афіцыйнага выдзялення зямлі на будаўніцтва. Невядома, як доўга будзе прымацца гэтае рашэнне, але ёсць надзея, што ўжо ў гэтым годзе пачнецца ўзвядзенне доўгачаканай святыні. Бог дабраславіць у гэтай справе, і мы верым, што Ён і надалей будзе нам дапамагаць.

## Гуляка: Касцёл у Беларусі недастаткова працуе па падрыхтоўцы святароў

**Рыма-Каталіцкая Царква ў Беларусі недастаткова актыўна працуе па падрыхтоўцы святароў, заявіў 2 лютага 2016 года Упаўнаважаны па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Беларусі Леанід Гуляка на калегіі Апарату Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцяў.**

«Рыма-Каталіцкая Царква ў Беларусі, як і раней, недастаткова актыўна працуе па падрыхтоўцы кадраў. Напрыклад, у Пінскай семінарыі ў 2015 годзе не было ніводнага выпускніка і ўсяго адзін чалавек паступіў на першы курс. У каталіцкай тэалагічнай акадэміі, што адкрылася ў 2015 годзе, няма ніводнага навучэнца, і, як следства, ёсць кадравая праблема і запрашэнне вялікай колькасці святароў з-за мяжы», — адзначыў Леанід Гуляка.

Прыгэтым,паводлеягослоў, некаторыя замежныя святары слаба валодаюць навыкамі зносін на дзяржаўных мовах Рэспублікі Беларусь і рэдка выкарыстоўваюць іх для правядзення набажэнстваў, што выклікае справядлівыя скаргі вернікаў.

*nn.by*

## Заява Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі адносна выказванняў Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей сп. Леаніда Гулякі

Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі на 62-ім пленарным пасяджэнні 4 лютага 2016 г. абмеркавала пытанне, звязанае з нядаўнім выказваннем Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей спадара Гулякі Л.П. 2 лютага 2016 года, якое датычыла дзейнасці Каталіцкага Касцёла ў нашай краіне.

**Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі лічыць неабходным звярнуць увагу на наступнае.**

Падрыхтоўка святароў з'яўляецца выключна ўнутранай справай Касцёла, які клапоціцца пра сваю будучыню (дарэчы, у гэтым годзе 19 чалавек распачалі навучанне ў семінарыях Беларусі і ў манаскіх семінарыях за мяжой), і абвінавачваць яго ў незацікаўленасці і недастатковасці "працы з кадрамі" беспадстаўна.

Што датычыць Каталіцкай Тэалагічнай Акадэміі імя святога Яна Паўла II, то яна зарэгістравана, цяперашні этап – атрыманне зямельнага надзелу, далей – узвядзенне будынка, і пасля гэтага Акадэмія распачне сваю дзейнасць, што таксама з'яўляецца выключна ўнутранай справай Касцёла.

Іншыя ўзнятыя спадаром Гулякам Л.П. тэмы могуць быць абмеркаваныя пры асабістай сустрэчы Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі з Упаўнаважаным па справах рэлігій і нацыянальнасцей.

*Канферэнцыя Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі*
*catholic.by*

## Біскуп Алег Буткевіч назваў беспадстаўнымі папрокі Каталіцкаму Касцёлу з боку Леаніда Гулякі

**"Заклапочанасць з боку ўлады кан'юнктурай сярод каталіцкага духавенства ў нашай краіне ў пэўнай ступені можна зразумець: кожная дзяржава дзейнічае згодна са сваім палітычным перакананнем". Пра гэта заявіў у каментары карэспандэнту Krynica.info біскуп Віцебскі Алег Буткевіч.**



Пры гэтым ён адзначыў, што "сёння гэты "клопат" выглядае ўсё ж такі дзіўна, бо зусім недалёка адышоў у мінулае той час, калі на дазвол уладаў паступаць у духоўную семінарыю кандыдат павінен быў чакаць ад пяці да пятнаццаці гадоў". А папрок Каталіцкаму Касцёлу ў тым, што ён сёння недастаткова працуе ў кірунку падрыхтоўкі ўласнага духавенства, біскуп назваў прынамсі беспадстаўным.

"Святарства – гэта не прафесія ў свецкім разуменні гэтага слова. Першым і асноўным матывам, каб стаць святаром, з'яўляецца пакліканне на моцы слоў самога Хрыста: "Прасіце Гаспадара жніва, каб выслаў работнікаў на жніво Сваё" (Мц 9, 38). І Касцёл заўсёды трывае ў гэтай малітве. Больш за тое, тэма паклікання падымаецца і на шматлікіх моладзевых сустрэчах. Іншая рэч – пазітыўны адказ чалавека на Божы заклік. "Калі нават тым, хто вырашае звязаць свой лёс з медыцынай (а гэта, дарэчы, прафесія, якая побач з педагогікай і святарствам павінна мець у сваёй падставе ўсё тое ж пакліканне), сёння прапануецца не разлічваць на вялікія прывілеі, то тым больш спецыфіка святарскага служэння патрабуе прыняцця ўзважанага рашэння, асабліва калі гэтае рашэнне трэба прымаць у вельмі неспрыяльных для такога служэння ўмовах сучаснага свету", – дадаў суразмоўца.

Датычна да неадпаведных паводзінаў святароў і парушэння імі дзяржаўнага права, біскуп пагадзіўся, што падыход тут павінен быць для ўсіх аднолькавы і святар таксама павінен несці адказнасць перад законам.

"І ў кожным канкрэтным выпадку ўлада, напэўна, не пакідае гэтага без увагі і прымае адпаведныя меры. Аднак публічнае і неадназовае выказванне пра "дэструктыўную дзейнасць" нават "некаторых святароў" падштурхоўвае да думкі, што Каталіцкі Касцёл – гэта патэнцыяльна небяспечная структура. Само па сабе напрошваецца ў дадатак да "дэструктыўная" яшчэ і слова "секта". Так, трэба прызнаць уладзе і ацаніць пазітыўную ролю, якую адыгрывае Каталіцкі Касцёл у нашым грамадстве. Але ў гэтым выпадку атрымліваецца салідная лыжка дзёгцю. Маем справу з методыкай "кнута і перніка" – падкрэсліў біскуп Алег Буткевіч.

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета "Каталіцкі Веснік"*
*вул. Савецкая, 1*
*211800*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 100 тысяч рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

*Місевіч*
*Віктар Мар'янавіч*
*вул. Савецкая, 1*
*211800*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў ва ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Ксёндз Юрый Бараўнёў узнагароджаны медалём “Pro Memoria”

**7 лютага ў Крулеўшчыне (Віцебская дыяцэзія) біскуп Віцебскі Алег Буткевіч асвяціў адноўленыя могілкі польскіх салдат часоў польска-савецкай вайны 1919-1920 гг. У гэты ж дзень за аднаўленне і ўпарадкаванне могілак пробашч мясцовай парафіі Найсвяцейшага Сэрца Езуса кс. Юрый Бараўнёў быў адзначаны медалём “Pro Memoria”, які быў уручаны святару прадстаўнікамі польскага дыпламатычнага корпуса.**

■ **Аксана Ючкавіч**, *тэкст і фота, catholic.by*




Крулеўшчына, якую часам называюць Крулеўшчызнай або нават Каралеўшчынай, знаходзіцца ў Докшыцкім раёне на Віцебшчыне. Гэта мясцовасць, дзе насельніцтва складае больш за дзве з паловай тысячы чалавек. Тут ёсць даволі вялікая чыгуначная станцыя, якую прыгадваюць тыя, хто дабіраецца са сталіцы полацкіх князёў у сучасную беларускую сталіцу ці наадварот.

Мястэчка, зрэшты, вядомае не толькі станцыяй, але і іншымі цікавымі рэчамі, якія пакінула на гэтых землях неспакойная гісторыя. Так, жыхары Крулеўшчыны маюць сумны напамін польска-савецкай вайны – могілкі яе ўдзельнікаў. На могілках рускіх салдат, якія знаходзяцца непасрэдна ў Крулеўшчыне, месціцца праваслаўная Спаса-Праабражэнская капліца. А крыху наводшыбе ад вёскі, у крулеўшчынскім полі, – магілы польскіх жаўнераў, якія стараннямі мясцовага пробашча кс. Юрыя Бараўнёва і вернікаў парафіі былі адноўлены, а 7 лютага асвечаны віцебскім ардынарыем.

У гэты лютаўскі дзень з сакавіцкім надвор'ем біскуп Алег Буткевіч завітаў у парафію, каб пасля цэлебрацыі святой Імшы паўдзельнічаць ва ўручэнні спецыяльнай і ганаровай узнагароды ксяндзу Юрыю Бараўнёву – медаля “PRO MEMORIA”. На такую ўрачыстасць на Докшыччыну прыехалі прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса Рэспублікі Польшча.

Медаль “PRO MEMORIA” – узнагарода, якая ўручаецца польскай Радай па справах абароны памяці змагання і мучаніцтва. На тэрыторыі Беларусі існуе шмат такіх месцаў, дзе пахаваны салдаты розных краін: шведы, палякі, рускія, французы. Некаторыя з гэтых месцаў ужо даўно адноўленыя і прыведзеныя ў парадак, іншыя яшчэ чакаюць свайго часу. Напрыклад, на тэрыторыі, дзе служыць ксёндз Юрый Бараўнёў, аналагічнае месца пахавання польскіх салдат з усталяваным пры ўздзеле святара крыжом знаходзіцца каля в. Чачукі.

Пасля Эўхарыстыі медаль быў уручаны кс. Юрыю Бараўнёву кіраўніком польскага дыппрадстаўніцтва – Часовым Паверанным у справах Рэспублікі Польшча Міхалам Хабрасам. Затым біскуп Алег Буткевіч, госці з Мінска, хор з Мёрскай парафіі, які прыехаў на чале з пробашчам кс. Кшыштафам Мянкінам, а таксама ксёндз-гаспадар і парафіяне накіраваліся на могілкі на малітву.

У промнях вечаровага сонца біскуп Алег Буткевіч прамовіў малітву “Вяночка да Божай Міласэрнасці”, на якую гучна адказвалі прысутныя. “Будзь міласэрны да нас і да ўсяго свету” – разносілася па крулеўшчынскім полі, сярод камення, крыжоў і ззяння лампадак, якое не было заўважным, бо перамагалася сонечным святлом.

У гэты дзень падчас Імшы ў касцёле і падчас малітвы на могілках звярталіся да Бога ў інтэнцыі тых, хто страціў сваё жыццё ў змаганні за вольнасць і праўду. “Тых, хто загінуў, маючы шляхетныя намеры, і нас, хто жыве, яднае адна праўда – праўда Уваскрослага Езуса Хрыста, якая вяртае да існавання кожнага чалавека. Нас яднае праўда пра прабачэнне і бачанне Божай хвалы”, – адзначыў біскуп у нядзельнай гаміліі.

Іерарх звярнуў увагу не толькі на небяспеку знешніх войнаў у іх прамым значэнні, але і на духоўныя праблемы сучаснасці: “Не толькі ў войнах праліваецца кроў. Колькі ненароджаных дзяцей не ўбачаць Божага святла, бо ў свеце не хапае бацькоўскай любові!.. На прыкладзе нашай гісторыі, гісторыі Польшчы мы можам бачыць, як адыход ад Бога вядзе да згубы”, – дадаў біскуп, падкрэсліваючы важнасць прабывання сведкамі Божай любові.

Таксама віцебскі ардынарый нагадаў, як важна памятаць пра сваё месца ў гэтым свеце, пра сваё прызначэнне, звярнуўшы ўвагу на тое, што толькі ў такім выпадку чалавек можа дзяліцца любоўю. “Любоў у сэрцы чалавека – ад Бога, а найважнейшае прагненне, якое можа быць у гэтым сэрцы, – прагненне бараніць гэтую любоў”, – сказаў біскуп.

Напрыканцы гаміліі іерарх пажадаў, каб прыкладам любові для ўсіх заўсёды была ахвяра Езуса Хрыста, які апраўдваў нават сваіх катаў, “бо не ведаюць, што чыняць”.

# Шаркаўшчынскія «Маргарыткі» сабраліся на супольнай малітве

**У першую нядзелю Вялікага посту ў касцёле Узвышэння Святога Крыжа ў Шаркаўшчыне адбылася святая Імша ў інтэнцыі ўсіх удзельнікаў малітоўнага руху «Апостальства Маргарыткі» і за ўсіх святароў, за каго яны створаны.**

■ **Лена Клімза**



Справа ў тым, што ў парафіі ад верасня 2014 года ўзнікла дзесяць «Маргарытак». Кожная складаецца з сямі асобаў, якія ў вызначаны дзень тыдня моляцца ў інтэнцыі абранага імі святара. Знайшліся ахвотныя маліцца ў інтэнцыі біскупа Алега Буткевіча, ксяндза пробашча Кшыштафа Сілкоўскага, былога пробашча ксяндза Чэслава Куцмежа, а таксама за святароў, якімі павінна ганарыцца парафія, бо яны з'яўляюцца ўраджэнцамі Шаркаўшчыны і праслаўляюць сваю малую радзіму ў розных куточках нашай Беларусі. Безумоўна, гэта ксёндз Андрэй Сіповіч – пробашч парафіі Узвышэння Святога Крыжа на Кальварыйскіх могілках у Мінску, ксёндз Мікалай Ліпскі – пробашч парафіі Святога Юды Тадэвуша, Апостала, у вёсцы Лучай, ксёндз Аляксандр Фядотаў – вікарый парафіі Божай Міласэрнасці, Гродна-Вішнявец.

Ва ўступным слове пробашч Кшыштаф Сілкоўскі прывітаў прысутных з нагоды радаснай падзеі, якая сабрала шматлікіх вернікаў. Адметнасцю нядзельнай святой Імшы стала тое, што Літургія слова і Малітва вернікаў былі падрыхтаваныя ўдзельнікамі «Апостальства Маргарыткі». Напрыканцы святой Імшы пробашч удзяліў спецыяльнае благаслаўленне шаркаўшчынскім «Маргарыткам». У хуткім часе ў парафіях, дзе служаць Богу і людзям святары, за якіх моляцца ў Шаркаўшчыне, адбудзецца святая Імша ў інтэнцыі «Маргарытак» і святароў, за якіх яны створаны.

Варта нагадаць крыху гісторыю малітоўнага руху «Апостальства Маргарыткі». Яго назва паходзіць ад імя незвычайнай асобы Маргарэт О'Донэл. Ва ўзросце 13 гадоў яна захварэла на палеамеліт і наступныя 27 гадоў свайго жыцця правяла ў нерухомасці. Хваробу сваю прыняла як пакліканне да малітвы. Яна пачала маліцца і ахвяраваць свае пакуты за ўсіх, хто да яе звяртаўся.

Сімвалам малітоўнага руху з'яўляецца маленькая палявая кветачка рамонак, якая азначае самаахвярнасць, прастасць і адзінства.

# Каляндар на сакавік

**У гэтым месяцы мы адзначаем самае вялікае свята хрысціянаў – Вялікдзень. А таксама перажываем Вялікі Тыдзень – час разважанняў пра пакуты і смерць на крыжы Езуса Хрыста. Асабліва вылучаюцца ў Вялікім Тыдні Вялікі Чацвер, Вялікая Пятніца і Вялікая Субота.**

**4 сакавіка – успамін святога Казіміра.**

Дзень імянін усіх, хто мае імя Казімір. Святы Казімір, каралевіч, з'яўляецца апекуном моладзі, а таксама абраны апекуном Гродзенскай дыяцэзіі і горада Гродна. Святы Казімір таксама галоўны апякун Літвы. У Вільні, у катэдральным касцёле, знаходзяцца яго рэліквіі.

**19 сакавіка – урачыстасць святога Юзафа.**

Дзень імянінаў усіх, хто мае імя Юзаф ці Юзэфа. Святы Юзаф – апякун Найсвяцейшай Панны Марыі і Езуса Хрыста на зямлі. Паходзіў з дому і роду цара Давіда. Святы Юзаф з'яўляецца апекуном добрай смерці. Святы Айцец Пій IX у 1871 годзе абвясціў святога Юзафа галоўным апекуном усяго Каталіцкага Касцёла. У гэты дзень удзел у св. Імшы з'яўляецца абавязковым.

**20 сакавіка – Вербная або Пальмовая нядзеля.**

У гэтую нядзелю ў знак ушанавання і памяці пра трыумф Езуса Хрыста пры ўваходзе ў горад Ерусалім асвячаюцца галінкі вярбы, ядлоўцу, часта ўпрыгожаныя кветкамі і стужкамі.

**24 сакавіка – Вялікі Чацвер.**

У Вялікі Чацвер адбылася Тайная – Апошняя – Вячэра Езуса Хрыста са сваімі вучнямі – апосталамі. Падчас святой Імшы ў Вялікі Чацвер біскуп ці святар абмывае ногі дванаццаці вернікам у знак пакоры і любові да бліжняга, паўтараючы прыклад Хрыста, Які мыў ногі апосталам. Ад гэтага дня ў касцёле моўкнуць званы і званочкі, усе крыжы пакрытыя фіялетавымі вэлюмамі, падчас святой Імшы гучаць толькі трашчоткі замест званочкаў. Гэта таксама дзень устанаўлення сакрамантаў Эўхарыстыі і святарства. Вернікі віншуюць сваіх святароў з днём святарства.

**25 сакавіка – Вялікая Пятніца.**

Гэта дзень скрухі і роздуму ўсяго хрысціянскага свету. Гэта адзіны дзень ва ўсім літургічным годзе, калі ў касцёлах не служыцца святая Імша, а толькі адбываюцца абрад ушанавання святога крыжа і адарацыя-пакланенне Найсвяцейшаму Сакраманту. У Вялікую Пятніцу захоўваецца строгі пост без мясных страў.

**26 сакавіка – Вялікая Субота.**

У гэты дзень працягваецца малітва вернікаў каля Грабніцы Езуса Хрыста. Таксама на працягу ўсяго дня ў касцёле асвячаюцца велікодныя стравы для святочнага стала. Пасля заходу сонца праходзіць урачыстая Пасхальная Вігілія, надзвычай прыгожая і вымоўная ў сваіх абрадах. Падчас яе асвячаецца агонь, пасхальная свечка, вада і спяваюцца велікодныя гімны.

**27 сакавіка – Вялікдзень.**

Дзень Уваскрасення Пана, калі ўся сям'я збіраецца разам за велікодным сталом і спажываюцца асвечаныя стравы. Чытаецца ўрывак з Евангелля і малітвы. Усе дзеляцца асвечаным яйкам з соллю, а пасля частуюцца рознымі стравамі. Першы дзень Вялікадня – дзень сямейны.

**28 сакавіка – Велікодны панядзелак. Другі дзень свята.**

У гэты дзень усе вернікі наведваюць касцёл і ўдзельнічаюць у святой Імшы. Прынята на другі, трэці дзень наведваць сірот, старых і адзінокіх людзей, увогуле ўсіх, каму патрэбная дапамога. У некаторых краінах Заходняй Еўропы існуе звычай на другі дзень свята абліваццa вадой, асабліва гэта падабаецца моладзі.

*Падрыхтавала* **Марына Ткач**

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Сардэчна віншуем **ксяндза Рамана Мурзіча** з Днём імянінаў, які ён адзначае 28 лютага.*

*Нізка кланяемся і дзякуем за Вашу працу па адраджэнні духоўнага жыцця ў нашай парафіі, за ласку і дабрыню, за навучанне любіць Бога і бліжняга. Жадаем моцнага здароўя, міру, дабра і цяпла, радасці, добрых людзей на Вашым шляху, апекі Маці Божай і дароў Святога Духа. Мы ў штодзённых малітвах памятаем пра Вас!*

***З вялікай павагай і сардэчнай удзячнасцю, вернікі парафіі Імя Найсвяцейшай Панны Марыі ў Параф'янаве***

## Віншуем! Паважаны ксёндз Кшыштаф Мянкіна!

*З нагоды Дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў на кожны дзень жыцця і святарскай паслугі, нястомнай апекі Маці Божай і шчодрых дароў Святога Духа, шмат сіл і стойкасці ў працы, натхнення, цярплівасці, добразычлівых людзей побач, шчодрага плёну на ніве Пана і моцнага здароўя, каб Вы як мага даўжэй маглі цешыць нас сваёй прысутнасцю і паслугай!*

***Аляксандр Сінкевіч – ад імя ўсіх вернікаў Мёрскай парафіі Унебаўзяцця НМП і св. Язафата Кунцэвіча, біскупа і мучаніка***

## На сакавік прыпадаюць дні нараджэння і імяніны наступных святароў і біскупаў:

**4 сакавіка** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Алег Кудэрка** (в. Адамовічы, Гродзенскі р-н), **кс. Казімір Жыліс SJ** (Гродна); імяніны адзначаюць **кс. Казімір Акушка** (Плюсы), **кс. Казімір Шыдэлка SDB**, **кс. Казімір Янджэйчак OMI** (в. Селіванаўцы), **кс. Казімір Ляховіч** (в. Быстрыца), **кс. Казімір-Тадэвуш Мараўскі** (в. Гудагай), **кс. Казімір Мурава** (в. Жупраны), **кс. Казімір Вальчук** (в. Нестанішкі), **кс. Казімір Жывалеўскі** (в. Лабна);

**5 сакавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Валерый Шэйгерэвіч OFMConv** (Свіслач);

**6 сакавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Зянон Шчонхар** (Відзы);

**7 сакавіка** – дзень нараджэння адзначае **а. Вальдэмар Куява** (Удзела);

**8 сакавіка** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **кс. Вадзім Мізер MIC** (Барысаў);

**10 сакавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Ян Пецюн** (в. Асава);

**11 сакавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Андрэй Стапыра** (г.п. Бярозаўка);

**12 сакавіка** – імяніны адзначае **кс. Гжэгаж Ксёнжэк SChP** (Чавусы);

**13 сакавіка** – гадавіну абрання папам адзначае **Папа Рымскі Францішак**;

**15 сакавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Віктар Санько** (Масты);

**16 сакавіка** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **кс. Юзаф Пятушка MIC** (Барысаў);

**17 сакавіка** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Ігнат Санюта** (Ахрэмаўцы), **кс. Аляксандр Рудзевіч** (Тракелі); імяніны адзначае **кс. Збігнеў Драгула** (в. Старыя Васілішкі);

**18 сакавіка** – дзень нараджэння адзначаюць **біскуп Віцебскі Алег Буткевіч**, **кс. Аляксандр Севасцьяновіч** (Мір), **кс. Віктар Субель** (в. Трабы); гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **кс. Леон Вітэк OMI** (в. Зарэчанка);

**19 сакавіка** – дзень нараджэння адзначае **біскуп Юзаф Станеўскі** (Гродна), **кс. Валерый Аброшка** (Ашмяны); імяніны адзначаюць **кс. Юзаф Пятушка MIC** (Барысаў), **кс. Юзаф Мельдзюк** (Вішнева), **кс. Юзаф Багдзевіч** (Астравец), **кс. Юзаф Гэнза CSsR** (Гродна), **кс. Юзаф Гіль**, **кс. Юзаф Ганчыц** (Ліда), **кс. Юзаф Трубовіч**;

**21 сакавіка** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **кс. Аляксандр Грыцкевіч** (Дзісна);

**23 сакавіка** - дзень нараджэння адзначаюць **кс. Рычард Якубец** (в. Мікелеўшчына), **кс. Леон Вітэк OMI** (в. Зарэчанка);

**24 сакавіка** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Чэслаў Халгас MS** (Дрысвяты), **кс. Аляксандр Лебядзевіч** (Іўе);

**28 сакавіка** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Аляксандр Амяльчэня** (Рым), **кс. Ян Гавецкі** (Іўе), **кс. Віталь Пяцельчыц SChP** (Шчучын); гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **кс. Вячаслаў Пялінак** (Ідолта);

**30 сакавіка** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Ігар Лашук SDB** (в. Багданава), **кс. Вадзім-Уладзіслаў Сурвіла** (Ліда); імяніны адзначае **кс. Ігар Лашук SDB** (в. Багданава);

**31 сакавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Віталь Дабраловіч** (Мінск).

**Просім нашых дарагіх чытачоў памятаць пра малітву за гэтых святароў і біскупаў.**

*Падрыхтавала* **Марына Ткач**

Каталіцкі ВЕСНІК
№2(59)
люты 2016 г.



# Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч: "Прысутнасць замежных святароў ва ўсім свеце лічыцца ўзбагачэннем Касцёла"

**Пасля нядаўняга выказвання Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Леаніда Гулякі, якое датычыла дзейнасці Каталіцкага Касцёла ў Беларусі, Старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Беларусі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч выказаў сваё меркаванне па гэтым і іншых пытаннях у інтэрв'ю "Каталіцкаму Весніку".**

**– Упаўнаважаны па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Леанід Гуляка 2 лютага адзначыў, што Касцёл у Беларусі недастаткова актыўна працуе па падрыхтоўцы святароў. Як Вы можаце пракаментаваць гэтыя словы?**

– Я не магу пагадзіцца з такім сцвярджэннем. Святарства – гэта не прафесія, а пакліканне. У гомане сучаснага секулярнага свету малады чалавек не заўсёды можа пачуць голас Бога, Які яго кліча. Таксама пакліканні ідуць з сем'яў. А колькі дзяцей сёння ў сем'ях? Сем'і малыя, а калі няма юнакоў, то хто пойдзе ў семінарыю? У апошнія часы таксама можна заўважыць, што на некаторыя спецыяльнасці і ва ўніверсітэтах існуе недабор. У мінулым годзе ў дыяцэзіяльныя і законныя семінарыі з Беларусі пайшло 19 чалавек. Гэтая лічба зусім не малая ў наш час, напрыклад, у параўнанні з многімі краінамі Еўропы. Таму на паўтара мільёна католікаў 19 семінарыстаў – гэта добры еўрапейскі рэйтынг.

**– Ці сапраўды сёння Касцёл у Беларусі патрабуе дапамогі святароў-замежнікаў?**

– У краіне 70 гадоў не было ніякай падрыхтоўкі святароў. Уявіце, каб 70 гадоў у Беларусі не рыхтавалі лекараў... Колькі б часу спатрэбілася, каб іх вывучыць? Таксама і ў Касцёле. Адраджэнне Касцёла распачалося 25 гадоў таму, і сваіх святароў было толькі каля шасцідзесяці. Сёння ў Беларусі каля 370-ці святароў. Голым вокам бачны прагрэс. Аднак гэтага яшчэ мала. І святары з-за мяжы патрэбныя. Часта наракаюць, што святары ў нас толькі з Польшчы, а не з Харватыі або Славакіі ці іншай краіны. Кожная краіна ў Еўропе ведае, што нам патрэбныя святары. Мы запрашаем іх не толькі з Польшчы, але і з іншых дзяржаў Еўропы, але там крызіс пакліканняў і біскупы з гэтых краін не могуць іх паслаць да нас. Калі я працаваў у Расіі, там былі святары з 23-ох краін свету і я не адбіраў толькі кандыдатуры з Польшчы. Таксама і тут я магу прыняць кожнага святара, аднак няма ахвотных.

Яшчэ адна прычына ў тым, што дазвол на працу замежным святарам вельмі моцна абмежаваны ў часе і кожны год яго неабходна аднаўляць. Ксёндз з-за мяжы, калі едзе працаваць, то хоча мець запэўненую сталасць свайго прабывання. Пра гэта таксама кажа і Кананічнае права. Рэальна на сённяшні дзень толькі Польшча, дзе вялікая колькасць пакліканняў, прыходзіць з дапамогай многім краінам Еўропы. Дарэчы, польскіх святароў сёння можна спаткаць не толькі ў Еўропе, але і ва ўсім свеце.

**– Спадар Гуляка выказаў думку, што святары-замежнікі слаба валодаюць навыкамі зносін на дзяржаўных мовах і рэдка выкарыстоўваюць іх у набажэнствах. Выкажыце сваё меркаванне на гэты конт.**

– Трэба быць удзячнымі святарам з-за мяжы. Паглядзіце, колькі касцёлаў яны пабудавалі, колькі людзей прывялі да веры! Безумоўна, трэба ведаць мову, культуру і абавязкова яе паважаць. Таксама трэба захоўваць беларускае заканадаўства. Святары, якія да нас прыехалі, ведаюць дзяржаўныя мовы, на іх абвяшчаюць Евангелле і духоўна дапамагаюць людзям. Напэўна, адзін лепш размаўляе на дзяржаўных мовах, іншы – горш. Аднак усе яны служаць на карысць Богу і людзям.

Я ўспамінаю часы, калі служыў у Расіі. У Саратаве быў адзін святар, які вельмі дрэнна размаўляў на расейскай мове, але за ім табуном хадзілі людзі, асабліва моладзь. Касцёла свайго не было, была маленькая капліца. І калі я прыязджаў, то ён праводзіў набажэнствы ў тэатры. Быў поўны тэатр моладзі! Я меркаваў, што яму цяжка з мовай, таму прасіў дапамагаць ксяндзу. Аднак мне сказалі: "Для нас, рускіх, нашая культура і мова вельмі важныя, але яшчэ важней сэрца". У гэтага ксяндза было вельмі адкрытае сэрца, ён прыцягваў людзей. Пазней, калі згаданага святара замянілі на іншага, гэтых людзей не стала.

Замежныя ксяндзы сюды прыехалі не для славы і ўзбагачэння. І касцёлаў, якія яны пабудавалі, яны з сабою не забяруць. У сваёй краіне ім было б значна лягчэй і камфортней. Таму трэба ім за гэта дзякаваць.

**– Якія суадносіны мясцовых і замежных святароў у Беларусі сёння?**

– У нас ёсць каля 370-ці сваіх святароў, а ўсяго ў краіне прыблізна 490 ксяндзоў.

**– У сваёй заяве на пасяджэнні Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Беларусі біскупы зазначылі, што справа падрыхтоўкі святароў з'яўляецца выключна ўнутранай справай Касцёла. Што гэта значыць?**

– Найперш трэба сказаць, што Касцёл аддзелены ад дзяржавы, але ён знаходзіцца ў дзяржаве. А чалавек з'яўляецца цэнтрам увагі дзяржавы і Касцёла. Таму тут можна адно аднаму дапамагаць.

Цяперадносна пакліканняў. Касцёл не кажа, што дзесьці ў нейкай навучальнай установе малы конкурс ці нават недабор студэнтаў. Ці гэта віна рэктара? Семінарыі і іншыя касцельныя ўстановы – гэта справа Касцёла, які мае сваю праграму і па ёй працуе. Пазітыўным з'яўляецца тое, што дзяржава не ўмешваецца ва ўнутраны працэс падрыхтоўкі. А сама падрыхтоўка святароў – гэта ўсё ж справа Касцёла, і мы клапоцімся пра тое, каб у семінарыях было больш навучэнцаў, якія стануць святарамі. Паўтару яшчэ раз, што святарства – гэта не прафесія, а пакліканне і нікога сілай нельга зацягнуць у семінарыю.

**– Ведаю, што вернікі актыўна абмяркоўваюць крытычнае выказванне спадара Гулякі на адрас Каталіцкага Касцёла. Многія нават праводзяць паралелі з савецкім часам, калі ўлады актыўна перашкаджалі ў дзейнасці Касцёла. Што Вы пра гэта думаеце?**

– У савецкія часы было не так лёгка патрапіць у семінарыю, бо яны знаходзіліся толькі ў Каўнасе і ў Рызе. Была абмежаваная колькасць тых, хто мог туды паступіць. Была таксама абмежаваная колькасць прафесараў. Сёння нам кажуць прымаць больш, а тады было наадварот. Усё змянілася, і таму ў гэтым сэнсе адносіны ўлады пазітыўныя. Сёння мы таксама накіроўваем семінарыстаў і святароў вучыцца за мяжу, тады гэта было немагчыма. У працэсе фармацыі новых святароў неабходна звяртаць вялікую ўвагу на тое, што кандыдаты, якія прыходзяць у семінарыю, сёння зусім іншыя чым гэта было раней. Яны па-іншаму выхаваныя, у іх іншы менталітэт, на іх у большай ступені ўплывае секулярны свет. Іх неабходна так фармаваць, каб былі здольнымі адказаць на вельмі небяспечныя выклікі нашага часу. Калі я вучыўся ў семінарыі, то працэс фармацыі працягваўся пяць гадоў, а цяпер з увядзеннем прапедэўтычнага году будзе сем.

**– Ці сапраўды з восені пачнуцца перамены ў адукацыйным працэсе семінарыстаў Беларусі, як тое анансаваў біскуп Аляксандр Яшэўскі SDB?**

– Мы рыхтуемся да зменаў. З восені плануецца ўвесці прапедэўтычны год навучання. Так ёсць ва ўсім свеце. У мінулым годзе ў Літве таксама ўвялі прапедэўтычны курс. Для кандыдатаў па ўсёй краіне існуе адзін прапедэўтычны курс у Віленскай духоўнай семінарыі, хаця ў Літве ёсць тры семінарыі. Таксама плануецца, што навучэнцы будуць вывучаць філасофію ў семінарыі ў Пінску, а тэалогію – у Гродне. Але да ўсяго гэтага неабходна адпаведным чынам падрыхтавацца. Неабходна падрыхтаваць праграму і знайсці адпаведных выкладчыкаў. У Беларусі ўсё яшчэ існуе праблема высокакваліфікаваных прафесараў і выхавальнікаў.

Сёння працэсы глабалізацыі адбываюцца таксама і ў Касцёле. Прысутнасць замежных святароў ва ўсім свеце лічыцца ўзбагачэннем Касцёла. Так як і ў эканоміцы, у Касцёле павінны быць розныя сувязі. На Божае Нараджэнне фігурку Езуса нясуць у яслі ўжо ў многіх парафіях. А я гэту традыцыю, будучы ў Маскве, пераняў ад в'етнамцаў. І гэта падабаецца людзям.

**– Біскупы на пасяджэнні 4 лютага закранулі тэму харызматычных рухаў у Беларусі. Дзе канкрэтна Вам бачыцца недастатковая дастасаванасць іх да Кананічнага права, што належыць выправіць? Што мелі біскупы на ўвазе?**

– Кожная супольнасць, якая існуе ў Касцёле, павінна мець свой статут і павінна быць зацверджана біскупам згодна з патрабаваннямі Кананічнага права. Тут размова ідзе не пра нейкую цэнзуру ці нагляд, але пра тое, што кожная касцельная супольнасць павінна адпавядаць кананічным нормам.

*Гутарыла Ірына Грэйць*



**Правільныя адказы на віктарыну са старонкі 16**

1. Армагедон, 2. Амэн, 3. Альба, 4. 1596, 5. Авель, 6. Аўгустын, 7. Андрэй, 8. Адвэнт, 9. Агностык, 10 Бэнэдыкт, 11. Візантыя, 12. Брэвярый, 13. Баал, 14. Човен, 15. Бінацыя, 16. Берэт, 17. Гродна, 18. Пінск, 19. Барбара, 20. Іванава

# Як выглядае Ваш пост?

**Малітва ў Бібліі часта спалучаецца з пастом. Пост заключаецца ў духоўным і фізічным устрыманні ад празмернасцей. Ён дапамагае чалавеку духоўна ўзбагачацца і ўзрастаць у веры. Праз пост чалавек выказвае сваю любоў да Бога.**

**У гэтым нумары вернікі распавядаюць “Каталіцкаму Весніку”, як выглядае іх пост.**

***Ірына Грэйць***



**Вольга Тарасевіч:**

– Пост – гэта час, які дазваляе праверыць сябе на трываласць у веры, на тое, наколькі я магу стаць мацнейшай у духоўным плане. Як правіла, толькі ў часе посту ўзнікае імкненне хоць неяк змяніць і пераасэнсаваць свае ўчынкі, погляды і перакананні. Я адмаўляюся ад прагляду тэлеперадач, інтэрнэту і танцаў падчас посту, але, як правіла, перад Вялікаднем маё жыццё становіцца іншым. Узнікае “гара” розных прапаноў, і тут настае самы складаны момант выбару: як паступіць, што зрабіць, ад чаго адмовіцца. Неабходна вырашыць, што для мяне стаіць на першым плане, а што на другім. Споведзь і малітва становяцца для мяне вельмі важнымі ў гэты час, паколькі хочацца духоўна ўзрасці і радавацца Уваскрасенню з чыстым сэрцам і душой. Чысціня майго розуму, чысціня маёй душы і сэрца – гэта найлепшае, што я магу падараваць Богу.



**Сяржук Федарук:**

– Пост для мяне ў першую чаргу – шанс наблізіцца да Бога. Таксама я спрабую падчас посту нешта змяніць у сабе ў лепшы бок. Раней Вялікі пост для мяне ў асноўным складаўся проста з абмежаванняў. Цяпер я разумею, што для таго, каб наблізіцца да Бога, патрэбна яшчэ знаходзіць больш часу для адносінаў з Ім. Звычайна ў час посту я адмаўляюся ад алкаголю, ад некаторых прысмакаў (якія я вельмі люблю), адмаўляюся ад мяса не толькі ў пятніцу, але і ў некаторыя іншыя дні тыдня. Але нейкія абмежаванні ў ежы для мяне не з'яўляюцца самым важным. Як ахвяру я прыношу для Бога адмаўленне ад чагосьці, што я вельмі люблю. Напрыклад, я адмаўляюся ад праслухоўвання музыкі, прагляду любімых перадач, не хаджу на канцэрты. Але самае галоўнае – гэта прысвячаць для Госпада болей свайго часу, таму я стараюся часцей хадзіць на святую Імшу, наведваць розныя рэкалекцыі, прымаю па магчымасці ўдзел у набажэнствах Крыжовага Шляху. А самыя сур'ёзныя і важныя для мяне дні Вялікага посту – гэта Вялікі Пасхальны Трыдуум. У гэтыя дні мы перажываем самыя важныя справы нашага Госпада Езуса Хрыста. Для сябе заўважыў: чым больш аскетычна і малітоўна я перажываю перыяд Вялікага посту, тым болей радуюся Святу Уваскрасення нашага Госпада Езуса Хрыста.



**Юля Дубіна:**

– Падчас посту заўжды ўзнікае пытанне: як я магу наблізіцца да Госпада, што зараз у маім жыцці аддаляе ад Яго? Я спрабую не толькі адмовіцца ад чаго-небудзь, але паглядзець, што трэба дадаць да маіх адносін з Богам. Заўжды высвятляецца, што малітвы не хапае, не хапае часу. Таму больш часу прысвячаю на ўпарадкаванне менавіта гэтага. Калі малітвы больш, адразу выразным робіцца тое, што трэба змяніць і над чым папрацаваць.

Калі адчуваю, што трэба ўзяць пост у нейкай інтэнцыі, то гэта заўсёды малітва, часцей за ўсё ружанец, і адмаўленне ад таго, што займае час і асаблівай карысці не дадае (прагляд фільмаў, час у сацыяльных сетках і г.д.).

У большасці ўсе духоўныя пастановы злучаюцца з нейкімі абмежаваннямі для цела (адмова ад розных любімых страў, больш упарадкаваны рэжым дня). Мне гэта дапамагае падчас посту і часам нагадвае праз такі матэрыяльны спосаб пра іншыя пастановы.

### Вынікі апытання на сайце Catholicnews.by і ў Facebook, Укантакце, Аднакласніках

**Як выглядае Ваш пост?**



- Пашчуся па пятніцах – 130 адказаў;
- пашчуся пераважна толькі ў час Вялікага посту або Адвэнту – 35 адказаў;
- не пашчуся зусім – 16 адказаў;
- пашчуся кожную пятніцу і сераду – 12 адказаў;
- іншы варыянт – 7 адказаў.

**Усяго – 200 адказаў**



**Рэгіна Канюк:**

– Мой пост – гэта перш за ўсё ачышчэнне сябе, сваіх думак, сваёй прасторы. Ачышчэнне ад хламу, які назапасіўся. Гэта спыненне ад мітусні, ад тысячы спраў, якія мы на сябе узвешваем. Гэта погляд ва ўнутр. Пост – гэта задаць сабе некалькі простых і такіх складаных і хворых часам пытанняў... Ці я шчаслівы? Хто я такі? Ці правільна я выкарыстоўваю свой патэнцыял? Што мне трэба рабіць? Хто вакол мяне? Якое жыццё я хачу? Што я наогул хачу? Дзе Бог у маім жыцці? Тут пытанні ў кожнага свае. І ёсць розныя спосабы, як можна ўзяць тайм-аўт. Касцёл прапаноўвае пост у ежы, адмову ад забаўляльных мерапрыемстваў і іншае. Я б усё ж параіла кожнаму знайсці свой спосаб, бо кожны чалавек – гэта нешта ўнікальнае.



**Вадзім Крывенькі:**

– Для мяне пост – гэта час, каб засяродзіцца, пашукаць голас Бога ўнутры сябе. Стараюся стаць лепш дысцыплінаваным, каб мець больш часу і супакоіцца, застацца сам-насам, пачытаць Біблію. Кожны дзень трэба развіваць сваё духоўнае жыццё, але менавіта ў перыяд посту гэта ўдаецца найлепш. Бо створаны ўсе ўмовы: больш малітвы, супакою. Мой пост звычайна складаецца таксама і з устрымання ад мяса, ніякіх гучных забаў (але падчас Вялікага посту магу паглядзець футбольны матч). Гэта вымушае рабіць высілкі. Бо пост немагчымы без пераадольвання. Праз пераадольванне больш адчуваеш сваю веру, Божую моц.

Пост таксама дапамагае сябе абмяжоўваць – такім чынам Бог дазваляе мне радавацца ўсяму, што маю, не захапляцца жыццём толькі дзеля сябе. І самае галоўнае – пост, я спадзяюся, для мяне служыць толькі штуршком для развіцця. І кожны раз дае новы крок майму духоўнаму жыццю.

# Як правільна па-беларуску: “ПА ВЯЛІКАМУ РАХУНКУ” ці “ПА ВЯЛІКІМ РАХУНКУ?”

**Абодва вынесеныя ў загаловак спалучэнні выкарыстоўваюцца ў сучаснай беларускамоўнай камунікацыі. Але паўстае лагічнае пытанне: якая канструкцыя правільная? І як, да прыкладу, мы мусім казаць: *па загаду*** *кіраўніка* **ці *па загадзе*; *па гэтаму*** *пытанню* **ці *па гэтым*** *пытанні***?**

■ **Юрась Бабіч**, *кандыдат філалагічных навук*

Яшчэ ў “Беларуска-расійскім слоўніку ”М. Байкова і С. Некрашэвіча (1926) падаюцца канструкцыі, пабудаваныя па схеме “па+ месны склон”. Такая практыка была замацаваная ў нашай мове ў 20-я гады мінулага стагоддзя – у час, бадай, найлепшых умоў функцыянавання сучаснай беларускай мовы. Але пазней, пачынаючы з сярэдзіны 30-ых гадоў, на хвалі русіфікацыі названую граматычную схему змянілі на “па+ давальны склон”, каб было, як і па-руску. Гэта значыць, рэкамендавалася ўжываць, напрыклад, *па нашаму звычаю, па свайму жаданню* і да т.п. На жаль, падобны падыход адлюстраваны і ў пяцітомным “Тлумачальным слоўніку беларускай мовы” (1977– 1984), бо яго аўтары, як слушна сцвярджае прафесар П. Сцяцко, механічна перапісалі ўзор “з расійскіх слоўнікаў” (Сцяцко П. Культура мовы. – Мінск, 2002. – С. 88).

Тыражуюць такія ўжыванні і сучасныя сродкі масавай інфармацыі, асабліва раённыя выданні, дзе праблема культуры мовы сапраўды надзвычай вялікая. Прывядзём колькі прыкладаў: ... *Цэнтр **па духоўнаму і культурнаму выхаванню*** (“Жыццё Прыдзвіння”, 14 верасня 2012); ***відэападарожжа па маляўнічаму наваколлю*** (“Гарадоцкі веснік”, 5 лістапада 2012); *на раённых спаборніцтвах **па зімоваму мнагабор’ю**; на першым этапе рэспубліканскай алімпіяды **па працоўнаму навучанню*** (“Гарадоцкі веснік”, 20 снежня 2014). У падобных выпадках гаворка ідзе пра нізкую прафесійную кваліфікацыю журналістаў. Як слушна заўважыў Кастусь Цвірка, “перш чым штонебудзь напісаць ці сказаць па-беларуску, многія з нас перакладаюць у думках з рускай мовы... Ну, а перакладаем, вядома ж, самым лёгкім спосабам: механічна замяняем рускія словы беларускімі, прычым тымі, што ляжаць на паверхні”.

Каб пазбегнуць недарэчнасцяў, трэба памятаць, што прыназоўнік *па* ўжываецца пры кіраванні з вінавальным і месным склонамі назоўнікаў ці займеннікаў, але не з давальным. Таму па-беларуску з пазначаных у загалоўку канструкцый правільнай будзе ***па вялікім рахунку***, а не *па вялікаму рахунку*.

# Калі святкаваць імяніны Багдана?

*“Імя майго сына – Багдан. У каталіцкім календары ёсць некалькі дзён на працягу года, калі святкуюцца імяніны Багдана. Але я не разумею, у які дзень мой сын мусіць мець сваё імяніны. Падкажыце, калі ласка. І яшчэ пытанне. Неяк на катэхезе майму сыну і ўсім дзецям з класа сказалі намаляваць свайго святога. Усе дзеці намалявалі. А мой сын – не. У інтэрнэце я шукала нешта пра святога Багдана, але не знайшла ні выявы, ні біяграфіі. Я распавяла пра гэта катэхетцы, што мы нічога не знайшлі пра святога Багдана і не ведаем, як традыцыйна выглядае яго выява. Катэхетка таксама нічога не ведала пра святога Багдана, але сказала, што трэба дзесьці ў ксяндзоў знайсці нейкую вялізную кнігу, у якой можна адшукаць адпаведную інфармацыю. І некалькі разоў абяцала ўзяць кнігу, але нешта перашкаджала: то ксяндза не было, то яна была занятая. А потым я перастала яе “даймаць”, бо яна сапраўды вельмі заняты чалавек.*

*Сама я яшчэ ў інтэрнэце шукала. На польскім сайце, дзе ўсе святыя, таксама няма Багдана. І дзе толькі польскія святыя – не знайшла. На catholic.by ў спісе святых таксама няма. А сын мяне прасіў распавесці яму пра святога, імя якога ён носіць. Я прасіла прабачэння, што нічога не знайшла і не магу распавесці. Па гэтай прычыне ў нашай сям’і няма дня святога Багдана.*

*Але мы маем такую традыцыю: я расказваю дзецям пра вядомых святых, пра звычаі, святкаванні ў іншых краінах. Напрыклад, пра святога Антонія, які нарадзіўся ў Лісабоне, але працаваў у Падуі. Расказваю, што я была ў тым касцёле ў Лісабоне, дзе быў ахрышчаны св. Антоні. Пра тое, што жыхары Лісабона ладзяць фэст з 12 на 13 чэрвеня. Пра тое, што ў Падуі захоўваюцца парэшткі святога, і я таксама была ў базыліцы св. Антонія. Яна вельмі велічная і прыгожая. І пра святога Патрыка распавядаю дзецям, кім ён быў, і якія цудоўныя традыцыі святкавання гэтага дня ў гонар св. Патрыка існуюць. І пра св. Марціна. І пра св. Люцыю. І так пра многіх святых! Безумоўна, дзякуючы інфармацыі з інтэрнэту. А таксама з досведу ўласных пілігрымак.*

*Але пра святога Багдана – нічога. І іконак у касцёле ніколі няма з яго выявай, колькі гадоў ужо пытаю. Але ў літургічным годзе не адзін раз прыгадваецца ў календары... Дапамажыце, калі ласка, даведацца пра яго. Дзякуй”.*

*Наста*

**На пытанне адказвае а. Аляксандр Махнач, манах ордэна піяраў Рыма-Каталіцкага Касцёла:**

– Гісторыя заходняга хрысціянства не ведае святых з такім прыгожым і старым імем. У хроніках узгадваюцца постаці з такім імем, якія з гонарам запісаліся ў гісторыю Еўропы. Ёсць некалькі выдатных сербскіх і харвацкіх біскупаў, якія насілі гэтае імя. Калі больш папулярызаваліся славянскія імёны, тады старое лацінскае імя Deusdedit (Дэусдэдзіт) пераклалі як “Багдан”. Значэнне імя Багдан (Богадан) можна патлумачыць як “дадзены Богам”. Багдан святкуе імяніны: 6 лютага, 19 сакавіка, 17 ліпеня, 10 жніўня, 9 кастрычніка, 8 лістапада і 10 снежня.

**На пытанне адказвае а. Зміцер Чарнель, грэка-каталіцкі манах-рэдэмптарыст:**



На абразе – святамучанік Тэадот Кірынейскі

– Імя Багдан – гэта славянскі варыянт грэцкага імя Тэадот. Імяніны можна святкаваць у наступныя дні: 2 сакавіка (святамучанік Тэадот Кірынейскі), 7 чэрвеня (святамучанік Тэадот Анкірскі), 7 лістапада (мучанік Тэадот Мелітэнскі)”.

# Як правільна захоўваць пост?

*“Хвала Хрысту! Прашу патлумачыць, як правільна захоўваць пост, што тычыцца ежы: што можна ўжываць, а што не? Шчыры пост трэба захоўваць толькі ў пятніцу ці яшчэ і ў сераду”?*

*Дзіяна*

**На пытанне адказвае кс. Кірыл Бардонаў:**



– Дысцыпліна Касцёла адносна абмежавання ў ежы змянялася на працягу стагоддзяў. Цяпер акцэнт ставіцца больш на тое, што чалавек сам на сябе накладае нейкія абмежаванні. Вернікі выбіраюць самастойна, якое абмежаванне ў ежы, і не толькі ў ежы, будзе для іх больш карысным.

Захаваўся толькі мінімум агульных абавязковых патрабаванняў. Тыя, хто дасягнуў 14-гадовага ўзросту, павінны адмаўляцца ад мясных страў ва ўсе пятніцы году, калі на іх не прыпадае касцельная ўрачыстасць (канон 1251 і канон 1252 “Кодэкса Кананічнага Права”). Сціслы пост – устрыманне ад мясных страваў і абмежаванне ў колькасці ежы – абавязковы ў Папяльцовую сераду і Вялікую Пятніцу (кан. 1251). Сціслы пост датычыць тых, хто мае 18 гадоў і не мае 60-ці (кан. 1252). У дні сціслага посту можна цалкам падсілкавацца адзін раз, а ўсе іншыя прыёмы ежы абмежаваць.

У некаторых краінах Канферэнцыі Біскупаў могуць зменшыць гэтыя патрабаванні (кан. 1253). Калі мы знаходзімся ў той краіне, дзе, напрыклад, па гэтай прычыне ядуць мясное ў пятніцу, то мы самі вырашаем спажываць мясныя стравы ці не (кан. 12 §3-13 §2). Аднаразова і па важнай прычыне дазволіць нам спажываць мясныя стравы можа наш пробашч ці пробашч той парафіі, на тэрыторыі якой мы знаходзімся, захоўваючы пры гэтым прадпісанні дыяцэзіяльнага біскупа (кан. 1245 ККП). Бываюць выпадкі, калі захаваць пост і названае ўстрыманне фізічна немагчыма, напрыклад, па прычыне хваробы, таму гэта не будзе парушэннем.

Як бачым, Вялікі пост асаблівымі акрэсленымі абмежаваннямі ў ежы не адрозніваецца ад іншых перыядаў. Прыгожае хрысціянскае сведчанне даюць тыя вернікі, якія выбіраюць супольна ці індывідуальна іншыя дадатковыя дні ўстрымання ад мясных страў ці сціслы пост, напрыклад, у Вялікую Суботу або на працягу ўсяго Вялікага посту. Пост і ўстрыманне з’яўляюцца формамі пакаяння, да якога заахвочвае нас сам Хрыстос.

# Ці можна апладзіраваць у касцёле?

*“Падчас касцельных святаў, асабліва, калі ў іх прымаюць удзел важныя персоны, бывае, што гучаць апладысменты. Людзі пляскаюць і біскупам, і святарам. Ці адпавядае гэта сакральнаму характару святыні? Ці можна апладзіраваць у касцёле?”*

*Вераніка*

**На пытанне адказвае кс. Уладзімір Русак, выкладчык Вышэйшай Духоўнай Семінарыі ў Пінску:**

– Падчас цэлебрацыі літургіі не толькі словы маюць значэнне. Кожны літургічны знак, пастава, жэст і чын павінны весці чалавека да засяроджанасці, каб чалавек мог без перашкод сустрэцца ў літургіі з Богам, дзеля чаго і прыходзіць у святыню.

Сярод літургічных знакаў, якія ўжываюцца ў Рымскай літургіі, касцельнае заканадаўства не ўзгадвае апладысментаў. Вельмі выразна на гэту тэму выказаўся Бэнэдыкт XVI у сваёй кнізе “Дух літургіі”, будучы яшчэ кардыналам: “Калі падчас літургіі апладзіруюць чалавечым дасягненням, гэта заўсёды відавочная прыкмета, што сутнасць літургіі цалкам траціцца і яна замяняецца своеасаблівай рэлігійнай забавай”.



# Што кажа Касцёл пра гіпноз?

*“Што кажа Касцёл пра гіпноз? Ці можа вернік паддацца гіпнозу”?*
*Ірына*

**На пытанне адказвае а. Аркадзь Куляха OCD:**

– Зададзенае пытанне датычыць рэчаіснасці, яшчэ не цалкам даследаванай у сучаснай псіхалогіі і псіхіятрыі. Здаецца, для звычайнага чалавека гіпноз з’яўляецца нечым таямнічым, а адначасова і захапляльным. Каталіцкі Касцёл у сваіх нешматлікіх выказваннях на тэму гіпнозу ставіцца да яго з асцярожнасцю і, звяртаючы ўвагу на разнавіднасць гіпнатычных практыкаванняў,допускае выкарыстанне кваліфікаванымі спецыялістамі некаторых формаў гіпнозу ў медычных мэтах, паказваючы адначасова пагрозы яго пазамедычнага і неадпаведнага выкарыстання.

Тэрмін “гіпноз” паходзіць ад грэцкага слова “hipnos”, якое найпрасцей можна перакласці як “сон”. Некаторыя даследчыкі мяркуюць, што гіпноз быў вядомы ўжо ў старажытных Кітаі, Індыі і Грэцыі, дзе выкарыстоўваўся ў лячэбных мэтах. Чалавек, які паддаецца гіпнозу, адкрывае гіпнатызёру шлях да свайго нутра, дазваляючы яму ўздзейнічаць на сябе. У літаратуры, прысвечанай дадзенай праблеме, сцвярджаецца, што гіпнозам можна выклікаць у чалавека некаторыя псіхічныя з'явы: адкрытасць на сугестыю, галюцынацыі станоўчага або адмоўнага характару, пасляпгіпнатычную сугестыю, рэгрэсіўны агляд жыцця ці глыбока падаўленых успамінаў, якія могуць сягаць нават перыяду перад нараджэннем.

Магчыма, што найбольш распаўсюджаныя асацыяцыі, звязаныя з гіпнозам, датычаць пэўнага кшталту гульняў, таксама эстрадных, калі хтосьці паддаецца гіпнатызёру, які не толькі абмяжоўвае стан яго свядомасці, але, напрыклад, загадвае выконваць дзеянні, якіх ён ніколі б не рабіў. У дадзеным выпадку гіпнатызёр просіць або выбірае добраахвотніка з аўдыторыі. Пасля ўвядзення чалавека ў стан гіпнозу, гіпнатызёр можа прапанаваць, напрыклад, лётаць па сцэне, як курыца. Ужо ў гэтым месцы можам сказаць: хоць гіпнатызёры сцвярджаюць, што ў гіпнозе немагчыма прымушаць кагосьці рабіць нешта супраць волі ці маральных прынцыпаў, але такія паводзіны даказваюць іншае.



Гіпноз выкарыстоўваецца таксама ў сучаснай медыцыне як спосаб лячэння розных захворванняў, як альтэрнатыва наркозу для спынення болю, напрыклад, падчас аперацыі, як дапамога жанчынам пры родах. Шмат людзей, сярод якіх каталікі не выключэнне, спрабуюць рознымі спосабамі вырашыць свае праблемы, звязаныя ці то са здароўем, ці з самаадчуваннем увогуле. У сучасным свеце шматлікія спецыялісты таксама з выкарыстаннем гіпнозу прапануюць дапамогу ў працэсе пахудзення, у вызваленні ад алкагольнай, наркатычнай, нікацінавай залежнасці, рознага кшталту псіхічных захворванняў, а нават у пераадоленні залежнасці ад азарту.

Да гіпнозу трэба падыходзіць вельмі асцярожна, бо ён можа выкарыстоўвацца рознымі, не заўсёды маральна апраўданымі спосабамі. Пры кожным чалавечым дзеянні неабходна ставіць пытанні адносна прадмету, мэты ды акалічнасцяў дадзенага чыну. Няма сумненняў, што ў часе гіпнозу чалавек мае іншы стан свядомасці, а гэта ў сваю чаргу можа адкрыць дзверы для розных відаў вонкавага ўздзеяння. Такім чынам, кожны, хто задумваецца, ці паддацца гіпнозу, павінен паставіць пытанне: ці неабходны ён, ці дапаможа і да чаго імкнецца?

Мэтаю псіхалогіі і тэрапіі ёсць служэнне на карысць чалавека. Усялякія маніпуляцыі, падазроныя або не да канца вызначаныя эксперыменты, вынік якіх невядомы, трэба адкінуць. Неабходна памятаць, што дабро чалавечай асобы павінна заўсёды знаходзіцца на першым месцы.

Каталіцкі Касцёл, дбаючы пра праўдзівасць чалавечага сумлення, засцерагаў вернікаў перад небяспекай шкоднага ўздзеяння гіпнозу, аднак не забараніў яго навуковых даследаванняў. У 1840 годзе Апостальская Сталіца сцвердзіла, што выкарыстанне гіпнозу маральна дапушчальнае пры ўмове, што яно не скіравана на незаконную або дрэнную мэту. У 1917 годзе Святы Пасад перасцярог католікаў, каб не ўдзельнічалі праз медыум ці без яго, а таксама з дапамогай гіпнозу ў спірытуальных сеансах, незалежна ад іх характару. Папа Пій XII у 1956 і 1957 гадах звярнуў увагу на магчымасць выкарыстання гіпнозу як спосабу абязбольвання, між іншым пры натуральных родах. Папа пры гэтым тлумачыць, што такі метад павінен мець медычную мэту пры захаванні асцярожнасці і адпаведных ведаў і маральных прынцыпаў як з боку медыка, так і пацыента. У тых жа прамовах Святы Айцец падкрэслівае таксама, што гіпноз – гэта вельмі сур’ёзная рэчаіснасць, таму патрабуе адпаведных навуковых і маральных ведаў і не можа практыкавацца як форма зацікаўленасці або хобі. Такім чынам, Касцёл не забараняе гіпноз у медычных мэтах, аднак звяртае ўвагу на небяспеку і пагрозы, звязаныя з ім.

Адным з найбольш важных элементаў гіпнозу ёсць сугестыя, г. зн. уздзеянне на асобу. Гіпнатызёр утрымлівае кантакт з чалавекам, перадае яму розныя просьбы, загады, якія датычаць як простых рухаў, так і складаных дзеянняў, успамінаў ці ўяўленняў. Існуе таксама пасляпгіпнатычная сугестыя, якая належыць да чыну ў будучыні, ужо пасля тэрапеўтычнага сеансу. Менавіта перадача кантролю над сабою другой асобе ёсць маральнай праблемай. Кожная чалавечая асоба, створаная па вобразе Бога, мае натуральнае права на свабоду і павагу да сябе, што ў сваю чаргу з'яўляецца неад'емным элементам яе годнасці. Існуе небяспека, што ў некаторых выпадках падчас гіпнозу можа быць парушана годнасць чалавечай асобы і яе свабода.

Некаторыя тэолагі і экзарцысты сцвярджаюць, што гіпноз можа перашкодзіць чалавеку ўзрастаць у святасці і адкрыць яго на дэманічныя сілы. Тут ідзе гаворка пра магчымасць спалучэння гіпнозу з магіяй, спірытуалізмам і акультызмам. У 2003 годзе Апостальская Сталіца выдала дакумент Jesus Christ, the bearer of the Water of Life, прысвечаны руху “Нью эйдж” (New Age), што нясе пагрозу. Рух сярод розных практык увядзення чалавека ў містычны стан па ўласным жаданні (такіх, як адраджэнне, біялагічная зваротная сувязь, сэнсарная ізаляцыя, халатропнае дыханне, трансцэндэнтальная медытацыя) выкарыстоўвае таксама і гіпноз. Католік не можа пагадзіцца на такога кшталту згубныя практыкаванні, бо яны супярэчныя з хрысціянскай антрапалогіяй.

Варта на заканчэнне нагадаць вучэнне, змешчанае ў “Катэхізісе Каталіцкага Касцёла” ў нумарах 2116 і 2017, дзе чытаем, што трэба адкінуць магію, вядзьмярства ды ўсе формы варажбы, звароту да дэманаў, выкліканне мёртвых, гараскопы, астралогію, хірамантыю або іншыя практыкі, якія скіраваны на пазнанне будучыні, панаванне над часам, бо яны супярэчныя з пашанай і павагай, якая належыць толькі Богу.

Даследаванні паказваюць, што ў некаторых выпадках медычны гіпноз дапамагае, але трэба звяртацца да сапраўднага прафесіянала, які прызнае праўды веры і маральныя прынцыпы Каталіцкага Касцёла. Трэба памятаць, што неадпаведна выкарыстаны гіпноз можа пашкодзіць чалавеку і прывесці да зла, таму патрэбныя тут асцярожнасць, пакора і пастаянная сувязь з духоўным кіраўніком. Заўсёды можна звярнуцца па дапамогу да святароў у сваёй парафіі.

# Што такое “бінацыя” і “трынацыя”?

*“Хвала Хрысту! Хацелася б даведацца, колькі святых Імшаў можа цэлебраваць святар у нядзелю і ў будні дні? Таксама прашу растлумачыць, што такое “бінацыя” і “трынацыя”?*
*Андрэй*

**На пытанне адказвае а. Аляксандр Махнач SP:**

– Хвала навекі! Дзякую Вам, Андрэй, за пытанні!

Прэзбітар (святар) можа цэлебраваць Эўхарыстыю толькі раз на працягу дня. Касцельнае Права дапускае выключэнні адносна гэтага правіла. Кодэкс з 1983 г., кіруючыся правілам, што прэзбітар не можа цэлебраваць Эўхарыстыю больш як раз у дзень, кажа пра выпадкі, калі дазваляецца некалькі разоў цэлебраваць або канцэлебраваць (к. 905 § 1-2).

Папа Павел VI у “Motu proprio Pastorale munus” ад 30.11.1963 г. (AAS 56 (1964), с. 5-12) дазволіў рэзідэнцыяльным біскупам, апостальскім вікарыям, сталым апостальскім душпастырам, а таксама прэлатам і абатам удзяляць дазвол святарам, калі іх недастатковая колькасць, а ёсць такая патрэба, – каб маглі двойчы цэлебраваць св. Імшу ў будня дні, а таксама, калі ёсць душпастырская патрэба, – тройчы ў нядзелю і ў абавязковыя святы.

Дазвол на бінацыю (цэлебрацыя другой св. Імшы ў той самы дзень) і трынацыю (цэлебрацыя трэцяй св. Імшы ў той самы дзень) можа даць кожны мясцовы ардынарый (к. 905, §2).

Варта памятаць пра агульныя правілы, якія датычацца бінацый і трынацый:



1. Адсутнасць святара, які змог бы цэлебраваць без бінавання ці трынавання. Калі ёсць прэзбітар, які можа і згадзіўся цэлебраваць св. Імшу, то тады няма патрэбы карыстацца гэтым агульным правам адносна бінацыі ці трынацыі.
2. Існуе сур’ёзная прычына.

Такой прычынай можа быць кожная рацыянальна патлумачаная душпастырская патрэба. Маецца на ўвазе духоўнае дабро вернікаў, а не асабістае дабро святара (напр., ахвяра за св. Імшу). Недастаткова прычыны, што на канкрэтны дзень прынята больш імшальных інтэнцый. Паслясаборнае Касцельнае Права дазволіла нават прыпыніць грыгарыянку (св. Імшы, якія цэлебруюцца 30 дзён запар у канкрэтнай інтэнцыі), калі з’явілася патрэба цэлебрацыі св. Імшы пахавальнай альбо ў сувязі са шлюбам, каб не бінаваць толькі ў сувязі з прынятай раней ахвярай (Тлумачэнне Кангрэгацыі Сабору ад 24.02.1967).

# Заступніца з Ларэта

**Яшчэ ў сярэдзіне XIX стагоддзя ў мястэчку Дунілавічы можна было сустрэць постаці людзей у чорных мантыях з чорнымі капюшонамі. Гэта былі манахі-дамініканцы, кляштар якіх дзейнічаў тут з 1683 па 1850 гг. Прызначэннем іх было несці ў народ веру ў Госпада, а таксама адукацыю і культуру.**

**Франц Хоміч**, *краязнаўца*

Напэўна, дамініканцы планавалі затрымацца ў Дунілавічах надоўга, але, як кажуць людзі, чалавек плануе на Зямлі, а вырашае Бог на Небе. У 1793 годзе наша мясцовасць адыходзіць да Расійскай імперыі, пачынаецца шэраг паўстанняў за незалежнасць. Адно з іх, 1830-1831 гг., падтрымалі каталіцкія ордэны, сярод іх і дамініканцы. Паўстанне было задушана, пачалася ліквідацыя кляштараў. У 1850 годзе расійскія ўлады скасавалі і кляштар у Дунілавічах.

Пры заснаванні кляштара яму быў падараваны фундатаркай Альжбетай Белазор цудадзейны абраз Маці Божай Ларэтанскай. У свой час заснавальніца атрымала яго ад Віленскага біскупа Мікалая Паца.

Ордэн дамініканаў будаваў свае храмы толькі ў буйных гарадах, а Дунілавічы былі ўсяго толькі мястэчкам. Выключэннем з правіла стала ўзвядзенне храма для захоўвання святыні, рэліквій – касцёла Найсвяцейшай Тройцы. Тут знаходзіцца ўнікальны двух'ярусны ("ларэтанскі") алтар, які сімвалізуе хаціну Дзевы Марыі.

Згодна з легендай, анёлы перанеслі дом Марыі з Палесціны ў Італію ў горад Ларэта, ратаваўшы ад разбурэння ворагам. Алтар складаецца з дзвюх частак, пярэдняй – для вернікаў і домаалтара (ззаду).



Паломнікі просяць у Багародзіцы дапамогі ў вырашэнні сваіх праблем. Марыя Ларэтанская лічыцца заступніцай пілотаў і тых, хто падарожнічае ў паветры, да яе звяртаюцца лётчыкі ўсяго свету.

Пасля закрыцця касцёла абраз захоўваўся ў мясцовых жыхароў, у спадарства Ліпскіх, а па іх ад'ездзе ў Польшчу – у касцёле ў Глыбокім. З аднаўленнем мясцовага касцёла ён быў вернуты на ранейшае месца, а ў 1997 і 2015 гадах абраз рэстаўравалі.

Пад абразом захоўваюцца воты (ахвяраванні). Звычайна гэта рэчы з каштоўных металаў. Пасля закрыцця касцёла ўладамі складзеныя воты зніклі, але цяпер інтэнсіўна папаўняюцца. Ідзе аднаўленне культу абраза Маці Божай Ларэтанскай, усё больш людзей даведваецца пра яго цудадзейную сілу і наведвае касцёл Святой Тройцы ў Дунілавічах. Вернікі просяць заступніцтва Маці Божай Ларэтанскай пры вырашэнні розных складаных жыццёвых сітуацый. Існуе шмат прыкладаў дзейснасці такога заступніцтва.

# Словы падзякі з Лепеля

**Пахвалёны Езус Хрыстус!**

**У Юбілейны Год Міласэрнасці мы з асаблівай душэўнай цеплынёй і ўдзячнасцю ўспамінаем тых, хто сваім прыкладам служэння Богу вучыць нас штодзённа жыць з Госпадам і ў радасці, і ў горы.**



Дзесяць гадоў таму касцёл Святога Казіміра ў Лепелі ўзначаліў ксёндз Андрэй Аніскевіч. А зусім нядаўна ён стаў пробашчам катэдральнага касцёла Езуса Міласэрнага ў Віцебску і пакінуў наш горад. Мы хочам перадаць яму шчырыя словы падзякі і расказаць пра аддадную справе Хрыста дзейнасць ксяндза Андрэя на Лепельшчыне.

### Выхавальнік моладзі

У нашай парафіі ксёндз Андрэй вёў нястомную працу па духоўным выхаванні дзяцей і моладзі: праводзіў рэлігійныя заняткі, наладжваў сустрэчы з моладдзю суседніх раёнаў, трэніраваў футбольную каманду. На ўсё жыццё запомняць хлопцы і дзяўчаты наведванне святых месцаў у Італіі, экскурсію ў Ватыкан, канікулы з Богам на Балтыйскім моры ў Польшчы. Немагчыма вызначыць тую меру спагады, цярпення і дабрыні, што атрымалі нашы дзеці ад ксяндза Андрэя! У тым, што яны выхоўваюцца сумленнымі, працавітымі, паважаюць Бога, – яго заслуга і як святара, і як чалавека.

Надзейным дарадцам і памочнікам у нялёгкіх жыццёвых выпрабаваннях быў ксёндз Андрэй і для дарослых. Ён ведаў, чым жыве кожная сям'я ў парафіі. Не раз словам і справай аказваў дзейсную дапамогу ў цяжкую хвіліну. Нястомны падарожнік, ён заахвочваў да падарожжаў і нас. Самыя запамінальныя штогадовыя пілігрымкі да Маці Божай Будслаўскай, паездкі ў Чанстахову (Польшча), да Маці Божай Вастрабрамскай (Літва).

### Клапатлівы гаспадар

Многае зрабіў ксёндз Андрэй для добраўпарадкавання касцёла: быў праведзены капітальны рамонт даха, заменены вокны і дзверы, пабелены сцены. Па яго запрашэнні італьянскі мастак Бертоні Маўрыцыа стварыў для касцёла абразы Маці Божай і Святога Юзафа. Святыню ўпрыгожвае жырандоля, прывезеная з Аўстрыі. Каля касцёла ўстаноўлена фігура Маці Божай і статуя Святога Яна Паўла ІІ.

Год таму ксёндз Андрэй быў прызначаны дырэктарам дабрачыннай каталіцкай арганізацыі "Карытас". Святар карыстаўся заслужаным аўтарытэтам і ў свецкіх колах, яго неаднойчы запрашалі на сустрэчы з навучэнцамі ўстаноў адукацыі Лепеля і Лепельскага раёна. Шырока вядома і яго дабрачынная дзейнасць.

Мы дзякуем Пану Богу за магчымасць сустрэцца і жыць побач з такім чалавекам! Жадаем ксяндзу Андрэю і надалей не спыняцца на шляху Дабра і Ісціны. Няхай Усемагутны Бог заўсёды ідзе з ім разам і накіроўвае яго розум, эмоцыі і справы на служэнне Касцёлу і на карысць людзям! Нашу сардэчную ўдзячнасць дасылаем бацькам святара за цудоўнага сына. Атуляем усіх нашай любоўю і малітвай.

***З вялікай павагай і сардэчнай удзячнасцю, вернікі парафіі Святога Казіміра ў Лепелі***

# Святы Патрык (386 – 493гг) 17 сакавіка

**Ёсць святыя, імёны якіх адразу выклікаюць асацыяцыі з пэўнай краінай. Святы Патрык адзін з такіх святых. Гаворым святы Патрык – і адразу думаем: Ірландыя, 17 сакавіка, зялёнае адзенне, гучнае святкаванне, лісточкі канюшыны і г.д. Цікава, што св. Патрык па паходжанні не ірландзец, а шатландзец. Як жа здарылася, што ён стаў апекуном іншай краіны і іншага народа?**

**а. Андрэй Сідаровіч MIC**



Шлях св. Патрыка да святасці і да Ірландыі быў нялёгкі. Сын рымскіх чыноўнікаў, якія служылі ў Шатландыі, ён у дзяцінстве быў украдзены ірландскімі піратамі і прададзены ў рабства. Працуючы пастухом у Ірландыі, шмат перадумаў і звярнуўся да рэлігіі. Нягледзячы на гады ў няволі, вельмі палюбіў Зялёны Востраў (адна з назваў Ірландыі), яго жыхароў, вывучыў мясцовую мову. Ужо як свабодны чалавек, манах і святар Патрык марыў вярнуцца ў Ірландыю ў якасці місіянера.

Касцельныя ўлады бачылі праўдзівую любоў Патрыка да ірландцаў і таму выслалі яго як місійнага біскупа на гэтыя тэрыторыі. Хронікі сведчаць, што Патрык ішоў заўсёды туды, дзе Евангелле яшчэ не абвяшчалася. Быў чалавекам надзвычайнай духоўнай упэўненасці і сілы. Шматлікія кіраўнікі плямёнаў разам з сем'ямі і сваімі памагатымі прымалі веру, а гэта спрыяла евангелізацыі іншых людзей. Патрык быў сапраўдным апосталам з арыгінальнымі ідэямі. Паколькі ў Ірландыі не было гарадоў, каб ствараць біскупствы, ён засноўваў манастыры, якія станавіліся цэнтрам духоўнага і грамадскага жыцця.

У іканаграфіі св. Патрык, як правіла, намаляваны ў адзенні біскупа са змеямі пад нагамі або з канюшынай. Гэта звязана з легендамі, якія распавядаюць пра цуд выгнання змеяў з Зялёнага Вострава, і перакананнем, што св. Патрык ужываў лісточкі канюшыны, каб растлумачыць таямніцу Святой Тройцы. Часам пад нагамі Патрыка намалявана шчыліна ў зямлі – гэта месца, якое называецца Брамы чысца св. Патрыка ў Лох-Дэрг (Lough Derg). Згодна з традыцыяй, св. Патрык уваходзіў у падзямелле, каб разважаць над вечнымі пакутамі грэшнікаў. Сёння гэта папулярнае месца пілігрымак.

# Запрашаем у Польшчу на Сусветныя дні моладзі!




**Сусветныя дні моладзі (СДМ) у Кракаве і Вялічцы пройдуць з 26-га па 31-га ліпеня 2016 г. пад дэвізам "Шчаслівыя міласэрныя, бо яны міласэрнасць спазнаюць" (Мц 5, 7). Больш за 2 млн маладых людзей прыедзе ў горад на Вісле на сустрэчу з Папам Францішкам. Улады Польшчы стварылі спецыяльны камітэт, адказны за арганізацыю найбуйнейшай у 2016 годзе сустрэчы моладзі з усяго свету.**

Да СДМ Польшча рыхтуецца з ліпеня 2013 года, калі Папа Францішак вызначыў месца чарговай сустрэчы з моладдзю. Кракаў быў выбраны таму, што гэты горад непасрэдна звязаны з палякам св. Янам Паўлам ІІ. Польскі Папа не толькі звязаў з Кракавам усё сваё святарскае жыццё, менавіта ён стаў ініцыятарам Сусветных дзён моладзі.

Першая моладзевая сустрэча адбылася ў 1985 годзе ў Рыме. З таго часу такія спатканні праводзяцца раз у два-тры гады ў розных месцах па ўсім свеце. Апошняя падобная сустрэча прайшла пры ўдзеле Папы Францішка ў 2013 годзе ў Рыадэ-Жанэйра. У ёй прынялі ўдзел каля 3,5 млн. чалавек.

## Папа зарэгістраваўся першым

Праз электронны планшэт Папа Францішак першым зарэгістраваўся ў якасці ўдзельніка XXXI Сусветных дзён моладзі. Гэта адбылося падчас звароту Пантыфіка да вернікаў з акна Апостальскага палаца Ватыкана пасля малітвы "Анёл Панскі" 26 ліпеня 2015 года. "Сёння адкрываецца рэгістрацыя на XXXI Сусветныя дні моладзі, якія адбудуцца ў наступным годзе ў Польшчы. Я хацеў асабіста даць пачатак рэгістрацыі і таму запісаўся, у якасці пілігрыма, з дапамогай электроннага дэвайса. Запрашаю моладзь з усяго свету да жыцця гэтай пілігрымкай або накіроўваючыся ў Кракаў, або прымаючы ўдзел у такім моманце ласкі ва ўласных супольнасцях", – пажадаў Папа Францішак.

## Хто ўдзельнікі?

Арганізатары СДМ мяркуюць, што ў асноўных святкаваннях у Кракаве і ваколіцах могуць прыняць удзел каля 2,5 млн вернікаў. Каля 300 тысяч з іх з 20-га да 25-га ліпеня правядуць падрыхтоўчыя пяць дзён перад стартам СДМ у польскіх дыяцэзіях. Арганізацыйны камітэт СДМ падтрымлівае старыя кантакты з епіскапатамі больш чым 110 краін на ўсіх кантынентах. У Кракаў збіраюцца прыехаць нават жыхары вострава Пасхі, астравоў Самоа і Саудаўскай Аравіі.

Каля 100 тыс. маладых пілігрымаў з Усходу змогуць прыняць удзел у СДМ дзякуючы фінансавай падтрымцы валанцёрскай акцыі "Білет для брата". Гэта ідэя, якой на заклік біскупаў прапамогу для маладых пілігрымаў адказалі польскія валанцёры. На фінансавую падтрымку прабывання ў Польшчы можа разлічваць моладзь з Арменіі, Азербайджана, Беларусі, Грузіі, Казахстана, Кыргызстана, Літвы, Малдовы, Расіі, Таджыкістана і Туркменістана.

Як заявіў падчас сустрэчы 29 кастрычніка 2015 года, на якой была абмяркавана падрыхтоўка беларускай каталіцкай моладзі да ўдзелу ў СДМ-2016, каардынатар СДМ у Кракаве ад Беларусі кс. Антоні Грэмза, "на цяперашні момант чакаецца, што з Беларусі ў СДМ прымуць удзел пяць тысяч чалавек. Гэта лічба, аднак, можа змяніцца".

## Месца правядзення

"Campus Misericordiae" (Поле міласэрнасці) – так будзе афіцыйна называцца некалькі гектараў зямлі на мяжы Кракава і Вялічкі. Тут пройдуць суботняе начное чуванне моладзі са Святым Айцом (30 ліпеня) і заключная нядзельная св. Імша (31 ліпеня). "Мы шукалі назву для гэтага месца. Знайшлі. Нам дапамог у гэтым Папа Францішак", – прызнаўся кардынал Станіслаў Дзівіш, арцыбіскуп Кракава падчас афіцыйнага абвяшчэння месца цэнтральных падзей сусветнага моладзевага форуму.

Арганізатары паведамілі, што рашэнне пра выбар поля на мяжы Кракава і Вялічкі ў якасці месца суботняй і нядзельнай сустрэч з Папам было прадыктавана добрым размяшчэннем і камунікацыйнымі магчымасцямі, што не будзе патрабаваць вялікіх выдаткаў для прыняцця тут двух мільёнаў чалавек.

Сусветным дням моладзі ў Кракаве будуць папярэднічаць Дні ў дыяцэзіях, якія пройдуць 20-25 ліпеня па ўсёй Польшчы. Яны будуць арганізаваныя для знаёмства з гісторыяй, культурай, а таксама штодзённым жыццём супольнасці Касцёла ў Польшчы.

## Даты

Моладзь пачне збірацца ўжо 24 ліпеня. Самая вялікая хваля чакаецца 26 ліпеня, у дзень афіцыйнага адкрыцця сусветнага форуму – 700 тыс. асоб. Таксама сотні тысяч маладых людзей прыедуць у дзень прыбыцця Папы – 28 ліпеня. Наступныя некалькі соцень тысяч прыбудуць на заключныя цырымоніі – 30 і 31 ліпеня. Прагназуецца, што з самой Польшчы ў Сусветных днях моладзі прымуць удзел каля 1 млн. маладых людзей.

## Праграма Моладзевага фестывалю

Фестываль будзе праходзіць з аўторка па пятніцу, паміж катэхезай і вячэрнімі сустрэчамі з Папам Францішкам. Гэта стане дадаткам да непаўторнай атмасферы СДМ.

"Фестываль моладзі" адбудзецца ў Кракаве і ваколіцах, дзе начуюць пілігрымы. Праграма фестывалю будзе паказаная на канцэртных сцэнах, у спецыяльных залах, клубах, на стадыёнах і спартыўных арэнах, г.зн. ва ўсіх даступных месцах.

На фестывалі можна будзе ўбачыць і пачуць:

● Малітву. Сусветныя дні моладзі – гэта перш за ўсё мерапрыемства рэлігійнага характару. Таму ў многіх касцёлах Кракава і яго ваколіцах будуць праходзіць малітоўныя сустрэчы і адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту;

● Выставы. Падчас СДМ у Кракаве з'явіцца некалькі выстаў, арганізаваных не толькі прафесійнымі артыстамі, але таксама і таленавітымі пілігрымамі. Тэма гэтых выстаў будзе блізкая да дэвізу СДМ.

● Спорт. Спартыўныя мерапрыемствы карыстаюцца велізарнай папулярнасцю сярод моладзі, а дух здаровага саперніцтва дапамагае ва ўзаемаадносінах з іншымі людзьмі. Задача СДМ – аб'яднанне ў суполцы усіх, хто прыедзе ў Кракаў. Таму ў межах "Фестывалю моладзі" таксама плануецца "Фестываль спорту" – Юліяда. Адной з запланаваных падзей будзе Copa Católica – футбольны матч, арганізаваны для пілігрымаў.

● Танцы. Разнастайнасць танцавальных формаў, ад балета да вулічных танцаў, дазволіць маладым людзям з усяго свету праявіць сваю крэатыўнасць. На адпаведных пляцоўках танцоры прадставяць культуру усіх кантынентаў, каб сваёй грацыяй і энергіяй праслаўляць Бога.

● Спектаклі. Тэатральныя прадстаўленні, арганізаваныя не толькі прафесійнымі артыстамі, а таксама і пілігрымамі закрануць тэму Божай міласэрнасці і гісторыі з жыцця святых.

● Музыку і спевы. СДМ – гэта магчымасць для розных хрысціянскіх ансамбляў рэпрэзентаваць сябе. Таму плануюцца выступленні як добра вядомых артыстаў, так і дэбютантаў, якія сваім жыццём і творчасцю распавядаюць пра сваю сувязь з Богам. Падчас папярэдніх СДМ на музычных сцэнах выступілі такія артысты, як Magda Anioł, Томэк Камінскі, Gospel Rain, The Kelly Family, Hillsong, а таксама Майкл Талбот – сусветна вядомы амерыканскі кампазітар. Камітэт СДМ-Кракаў-2016 ужо прымае заяўкі хрысціянскіх музыкаў.

Змест праграмы фестывалю будзе вядомы пасля зацвярджэння выступленняў Папскай радай па свецкіх справах.



## Лагатып СДМ-2016

У сімволіцы лагатыпа злучаныя розныя дэталі. У цэнтры размешчаны крыж – сімвал Хрыста, які з'яўляецца цэнтрам Сусветных дзён моладзі. З крыжа зыходзяць два іскрыстыя патокі чырвонага і сіне-блакітнага колераў, што сімвалізуюць прамяні Божай міласэрнасці – кроў і ваду з боку Хрыстовага. Гэтыя прамяні адначасова з'яўляюцца рукамі юнака, якія ахопліваюць і трымаюць над галавой высока падняты крыж. Знешнія межы лагатыпа ўтвараюць карту Польшчы, а галава маладога чалавека размешчана на месцы Кракава. Выкарыстаныя колеры – сіні, чырвоны і жоўты – з'яўляюцца афіцыйнымі колерамі горада.

## Спрашчэнне візавага рэжыму

Што датычацца пытання бясплатных візаў, якое важнае асабліва для бліжэйшых суседзяў Польшчы, у тым ліку і Беларусі, прадстаўнік польскага ўрада, што ўдзельнічаў у сустрэчы 24 лютага 2015 года, паабяцаў падтрымку з боку Міністэрства замежных спраў у спрашчэнні візавага рэжыму для ўдзельнікаў СДМ-2016.

## Інфармацыя для моладзі Віцебскай дыяцэзіі

Ёсць цудоўная магчымасць для нашай моладзі прыняць удзел у сусветным форуме і спаткацца са Святым Айцом. Віцебская дыяцэзія, як і іншыя дыяцэзіі Беларусі, арганізоўвае агульнадыяцэзіяльную пілігрымку.

Пілігрымка адбудзецца 19 ліпеня – 2 жніўня. Спачатку беларуская моладзь накіруецца ў дыяцэзію ў Седльцах, у якой будзе прабываць на Місійным Тыдні. 26 ліпеня плануецца выезд у Кракаў на афіцыйнае адкрыццё сусветнага форуму.

Адказнымі за рэгістрацыю моладзі з'яўляюцца душпастыры ў парафіях. Для тых, хто не мае візы, неабходна запісацца да канца красавіка, а ў каго ёсць віза – да канца чэрвеня.

## Кошты

Дакладны кошт двухтыднёвага ўдзелу яшчэ не вызначаны, папярэдняя сума – 280 еўра плюс страхоўка. З боку беларускіх біскупаў да арганізатараў Дзён моладзі паступіла просьба пра зніжэнне кошту. Сума, магчыма, будзе зменшаная.

Па ўсіх пытаннях наконт удзелу ў Днях моладзі можна звяртацца да наступных святароў:

● Віцебская дыяцэзія – кс. Аляксей Асон (тэл.: +375 29 7189582)

● Гродзенская дыяцэзія – кс. Антоні Грэмза (тэл.: +375 29 6324373)

● Мінска-Магілёўская архідыяцэзія – кс. Віталь Драздоўскі (тэл.: +375 29 5645195)

● Пінская дыяцэзія – кс. Павел Рудзьман (тэл.: + 375 29 7900093)

*Падрыхтавала Марына Сінкевіч*



Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл

# ПАЗНАВАЙКА

## РАЗГАДАЙ

Разгадай рэбус, узяўшы першую літару кожнага слова, і даведайся, што з'яўляецца адным з найважнейшых хрысціянскіх учынкаў.



## ПРЫТЧА ПРА БЛУДНАГА СЫНА

Езус расказаў народу прытчу: «У аднаго чалавека было два сыны; і сказаў малодшы бацьку: "Ойча! Дай мне з маёнтка тую частку, якая мне належыць". І бацька падзяліў паміж імі маёнтак. Мінула нямнога дзён. Малодшы сын забраў усё, што належала яму, і пайшоў у далёкую краіну»...(Лк 15, 11-32)



### ЗАДАННЕ 1

Прачытай працяг прытчы разам з бацькамі ў Бібліі і паспрабуй растлумачыць, чаму вучыць гэтая прытча пра блуднага сына?

### ЗАДАННЕ 2

Расфарбуй і патлумач, што робіць блудны сын на малюнку.

## ЗАНЯСІ ХЛЕБ ГАЛОДНАМУ ЧАЛАВЕКУ



## ПРАЧЫТАЙ СЛОВЫ

Ідучы па стрэлках, ты прачытаеш словы, якія Папа Францішак сказаў пра Вялікі пост.




______________________________________

______________________________________

______________________________________

## ШТО ЛІШНЯЕ?

Знайдзі і закрэслі тое, што будзе лішнім у часе Вялікага посту.



## Малітва

Дарагі Езу! Дзякую Табе за тое, што Ты паказаў мне шлях да міласэрнага Айца. Прашу Цябе: благаславі мяне і ўсю нашу сям'ю, а таксама сяброў і блізкіх, каб мы годна перажылі Вялікі пост. Прашу Цябе таксама за тых, хто згубіўся ў жыцці. Адары іх сваімі ласкамі, каб яны вярнуліся да Айца, Які іх заўсёды чакае. Амэн.

# Яшчэ раз пра Трыдэнцкую Імшу

**Пахвалёны Езус Хрыстус!**

**Змешчанае на 10 старонцы "Каталіцкага Весніка" (№1 (58), 2016) пытанне "Дзе ў Беларусі можна паўдзельнічаць у Трыдэнцкай Імшы?" мяне як свядомага прыхільніка каталіцкай традыцыі вельмі парадавала.**

Аднак як святар з больш чым васьмігадовым стажам рэгулярнай цэлебрацыі гэтай святой Імшы хацеў бы даведацца, з якіх крыніц шаноўны аўтар адказу чэрпаў інфармацыю пра тое, што "каб была магчымасць цэлебраваць такую Імшу, павінна быць ... каля 30 чалавек"? Наколькі мне вядома, нават для дзяржаўнай рэгістрацыі рэлігійнай абшчыны дастаткова 20 асобаў. А тут, як я разумею, пытанне пра стварэнне персанальнай парафіі старога абраду (паводле кан. 518 Кодэксу Кананічнага Права) не ставіцца. Магчыма, маецца на ўвазе т. зв. салемная (урачыстая) цэлебрацыя? Асіста да яе сапраўды можа налічваць 10 і больш асобаў. Але ж існуе і больш сціплая спяваная і нават ціхая святая Імша.

Дакументы Апостальскай Сталіцы, якія з'яўляюцца падставай для рэалізацыі права вернікаў на літургію паводле экстраардынарнай формы лацінскага абраду – motu proprio Св. Айца Бэнэдыкта XVI "Summorum Pontificum" ад 7.07.2007г (далей – SP) і інструкцыя па яго выкананні "Universae Ecclesiae" ад 30.04.2011г (далей – US, гл. сайт unavoce.ru, раздзел "Документы Церкви"), – не ўдакладняюць колькасці асоб "сталай групы вернікаў", аб'яднаных з мэтай служэння старой літургіі (пар. UE15). Больш за тое, SP2 дае права кожнаму каталіцкаму святару лацінскага абраду на Імшах без народа ўжываць Рымскі Імшал 1962 г. (чым я і карыстаюся), а SP4 дазваляе вернікам паводле ўласнага жадання ў іх удзельнічаць. Гэтыя дакументы, як і суправаджальныя да іх лісты самога Папы, настойліва заахвочваюць біскупаў і душпастыраў ісці насустрач зацікаўленым таксама ў публічнай цэлебрацыі, прадастаўляючы для гэтага адпаведныя месцы і час (пар SP5, UE 16, 17, 18, 33).

Нельга не пагадзіцца з думкай шаноўнага аўтара, што да ўдзелу ў святой Імшы трэба рыхтавацца і не ўспрымаць яе як тэатральную пастаноўку. Толькі мой асабісты вопыт падказвае, што больш актуальнымі яе адрасатамі павінны быць зусім не прыхільнікі старой літургіі... Атрымаўшы ў свой час спецыяльнасць кіраўніка драматычных калектываў, лічу, што маю права прыгадаць тут адно з асноўных правіл класічнага тэатра: пасылаць голас у залу, павярнуўшыся тварам да гледача і наладжваць кантакт. А гэта практыка характэрная зусім не для Трыдэнцкай Імшы. Падчас яе святар як капітан, што вядзе карабель праз неспакойнае мора да абяцанай зямлі, стаіць на чале вернікаў, звернуты ў адзін з імі бок, прамаўляючы ад іх імя да Бога, прысутнага ў табэрнакулюме або прадстаўленага на Крыжы...

*З павагай і малітвай*
***а. Міхал Ермашкевіч OP, г. Сянно***

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

**Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.**

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Ірына Кончыц** *(Гомель)*, **Вераніка Абуховіч** *(в. Дунілавічы)*, **Аліна Гайлеўская** *(Леамполле, Відзы)*, **Ванда Кавалеўская** *(в. Леанполь, Мёрскі р-н)*, **Аляксандра Гушча** *(в. Оцкавічы, Пастаўскі р-н)*, **Тэрэса Варанецкая** *(Мёры)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Рэгіна Латышонак** *(Шаркаўшчына)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **Вольга Парневіч** *(в. Крулеўшчына)*, **Феліцыя Небышынец** *(в. Дубовы Лог, Барысаўскі р-н)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **Яніна Дулінец** *(в. Савуткі)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211800 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя***
***"Каталіцкага Весніка"***

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**21 лютага 2016 г.**

***Лк 9, 28б – 36***

Святы Лука звяртае ўвагу на тое, што малітва з'яўляецца прасторай, у якой адкрываецца неба. Езус – гэта адзіны пасрэднік паміж намі і Айцом, і мы павінны Яго слухаць. Ён свядома рыхтуе сябе і сваіх вучняў да смерці і змёртвыхпаўстання. Збаўленне – гэта невыпадковае здарэнне. Гэта поўнае любові і паслухмянасці дзейнасць Езуса. Езус выконвае абяцанні Старога Запавету. Ён аб'яўляецца сваім вучням у нябеснай славе, каб умацніць іх сэрцы на падзеі Вялікай Пятніцы.

*– Ці шукаю на малітве разумення Божых спраў?*

*– Ці правільна малюся?*

*– Ці размаўляю са сваім духоўным настаўнікам пра якасць маёй малітвы?*

*– Што раблю, каб маліцца лепш?*

*– Ці чытаю рэлігійную літаратуру?*

*– Ці маю свой любімы від малітвы?*

*– Ці спавядаюся з занядбання ў малітве?*

*– Ці разважаю над Божым словам?*

*– Ці разважаю пра Божую волю адносна мяне, якую знаходжу ў Божым слове?*

*– Ці жыву паводле таго, што Бог мне сказаў?*

*– Ці размаўляю са сваім духоўнікам пра тое, што зразумеў у Божым слове, каб не памыліцца і трываць у еднасці з вучэннем Касцёла?*

*– Ці бачу Божае дзеянне ў сваім жыцці?*

*– Ці дзякую Богу?*

*– Ці праслаўляю Яго?*

*– Ці разважаю на малітве пра падзеі, якія адбываюцца ў маім жыцці, каб з'яднаць іх з Божай воляй?*

**28 лютага 2016 г.**

***Лк 13, 1-9***

Езус заступаецца за нас. Дае нам час і іншыя Божыя ласкі, каб мы прынасілі плён. Трэба карыстацца імі, бо наша жыццё на зямлі кароткае, і час плённага жыцця таксама абмежаваны. Езус акрапляе нас ласкай вады Хросту, абмывае крывёй прабачэння за нашы грахі і насычае нас сваім Целам і Крывёй. Мы маем усё, каб прыносіць плён.

*– Ці задаволены я, што ведаю больш за сябе грэшнікаў?*

*– Ці не лічу, што галоўнае – не рабіць вялікіх грахоў і ўсё будзе добра?*

*– Магчыма, зрабіўшы першы крок у духоўным жыцці (г.зн. пакінуўшы смяротны грэх), я затрымаўся ў духоўным развіцці?*

*– Ці разумею, што мала не рабіць вялікага зла, трэба рабіць добра?*

*– Ці шукаю Божую волю?*

*– Ці ведаю, што хоча Бог, каб я рабіў?*

*– Якое дабро раблю сёння?*

*– Якую пастанову я маю падчас Вялікага посту?*

*– Якое з гэтай пастановы нараджаецца дабро, якія плёны?*

*– Як я карыстаюся Божымі дарамі?*

*– Як малюся?*

*– Як удзельнічаю ў Імшы?*

*– Як спавядаюся?*

*– Як слухаю Божае слова?*

*– Ці плённа?*

**6 сакавіка 2016 г.**

***Лк 15, 1-3; 11-32***

Езус не хоча, каб мы пагарджалі іншымі людзьмі. Ён хоча, каб мы былі ўдзельнікамі міласэрнай Божай любові. Прыпавесць пра міласэрнага Айца асаблівым чынам гучыць у Год Міласэрнасці. Касцёл хоча прыгадаць нам, што міласэрнасць – гэта не дадатак да хрысціянства. Міласэрнасць – гэта не толькі спачуванне і іншыя пачуцці, якія ўспыхнулі ў нас. Міласэрнасць – гэта падстава спадзявання, гэта радасць з таго, што брат, які быў мёртвы, ажыў. Міласэрнасць – гэта вялікая сіла, крыніцай якой з'яўляецца сам Бог. Мы вучымся міласэрнасці, калі бачым і праслаўляем міласэрнасць Бога адносна нас. Мы павінны з радасцю прыходзіць да крыніцы Божай Міласэрнасці, якая выцякае праз край, напрыклад, у спавядальні. А таксама мы, да якіх Бог дакрануўся міласэрнай любоўю, абавязаны сведчыць пра надзею, якая ёсць у Богу для ўсіх, іншым. Менавіта праз нас Ён хоча атуліць увесь свет Сваёй любоўю.

*– Як я стаўлюся да грэшніка?*

*– Ці раблю намаганні, каб адрозніць грэх ад грэшніка?*

*– А можа, ганарліва пагарджаю грэшнікам?*

*– Я – міласэрны?*

*– Я заўсёды міласэрны?*

*– Я міласэрны, як Бог?*

*– Міласэрнасць – гэта мой стыль жыцця?*

*– У чым гэта праяўляецца?*

*– Ці давяраюся сам Божай міласэрнасці?*

*– Ці давяраю Богу?*

*– Ці малюся вяночкам да Божай міласэрнасці?*

*– Ці разумею сэнс заклiку з абраза Езуса Міласэрнага: "Езус, давяраю табе?"*

*– Ці спавядаюся?*

*– Ці з'яўляецца для мяне споведзь сустрэчай з Божай дабрынёй?*

*– Ці рэгулярна спавядаюся?*

*– Ці маю пастаяннага спаведніка?*

*– Ці шчыра адкрываю сваё сэрца перад Богам і святаром?*

*– Ці сведчу пра Божую міласэрнасць?*

*– Ці з'яўляюся я для іншых чалавекам, які прыносіць надзею?*

**13 сакавіка 2016 г.**

***Ян 8, 1-11***

Езус падчас размовы з чужаложніцай прабачае ёй грэх. Кажа: "Ідзі і больш не грашы". Ён ратуе жанчыну з бездані грэху і ад наступстваў гэтага грэху. Гэты заклік з'яўляецца папярэджаннем, што зло ёсць рэальная небяспека для чалавека. Спакуса і грэх датычаць кожнага чалавека. Ніхто не можа сказаць пра сябе: я – бязгрэшны. Таму пры сустрэчы з грахом трэба весці сябе так, як Езус. А менавіта адназначна асуджаць зло, рашуча станавіцца на бок грэшніка, каб вырваць яго з абдымкаў грэху, які нараджае смерць.

*– Ці не бяруся судзіць іншых, забываючы пра свой грэх?*

*– Ці не спрабую заняць месца Бога, думаючы, што ведаю глыбіню людскога сэрца?*

*– Ці хачу дапамагчы грэшнікам знайсці Бога?*

*– Што нясу ў свет: надзею ці асуджэнне?*

*– Ці не прымяншаю зло, шукаючы фальшывае апраўданне?*

*– А можа, несур'ёзна стаўлюся да небяспекі, якую нясе з сабой грэх?*

*– Ці разумею, што кожны грэх забівае любоў і грэшніка?*

*– Што раблю, каб дапамагчы грэшніку распачаць новае жыццё?*

*– Ці дапамагаю іншым пазбягаць спакусы?*

*– Ці не спакушаю каганебудзь?*

*– Ці навяртаюся?*

*– Што раблю, каб не трапляць у звыклыя грахі?*

*– Як змагаюся са сваімі заганамі?*

*Разважанні падрыхтаваў*
***кс. Павел Кнурэк***

# Віншуем пераможцаў










**Падведзены вынікі конкурсу "Міласэрнасць – гэта..."**

20 студзеня завяршылася галасаванне і лепшымі конкурснымі працамі нашы чытачы выбралі:

1. "Міласэрнасць – гэта жаданне быць патрэбным". Аўтар – а. Віталь Слука SP са Шчучына. (182 галасы)
2. "Міласэрнасць – гэта прамая дарога да неба". Аўтар – Вікторыя Янчарская з Гродна. (141 голас)
3. "Міласэрнасць – гэта ўзаемная падтрымка". Аўтар – Юлія Тацэвіч са Шчучына. (81 голас)

## Арганізатары няспыннай малітвы за Беларусь шукаюць адважных

**Няспынная малітва за Беларусь – кругласутачная непарыўная малітоўная чарга мінімум 168 чалавек, кожны з якіх на працягу адной гадзіны раз на тыдзень моліцца за краіну. Перыяд малітвы – тыдзень, месяц, паўгода – кожны выбірае сам.**

Некалькі гадзін у кругласутачнай малітве яшчэ застаюцца вольнымі, таму арганізатары шукаюць ахвотных: аўторак – 01.00-02.00, чацвер – 15.00-16.00, пятніца – 03.00-04.00, субота – 12.00-13.00, нядзеля – 06.00-07.00.

Арганізатарка няспыннай малітвы за Беларусь **Вольга Севярынец** дзеліцца з "Каталіцкім Веснікам": ***"Трэба маліцца, каб Бог зберагаў нашу краіну. Маліцца так моцна, як мы молімся за свае сем'і. Заганы на нашай зямлі – алкагалізм, аборты, самагубствы, бязвер'е, людскую абыякавасць – можа змяніць толькі Гаспад. Малітва – гэта тое, што мы можам і павінны рабіць, бо яна мае моц".***

Звязацца з арганізатарамі малітвы за Беларусь можна па тэлефоне (8029) 593 71 60 (Вольга) альбо праз пошту malitvazabielarus@gmail.com.

**Далучайцеся! Беларусь патрабуе нашай малітвы!**



## Што? Дзе? Калі?

### Каталіцкая віктарына

1. Месца апошняй бітвы Бога з Сатаной.
2. Слова, якім заканчваецца кожная малітва.
3. Белае адзенне, якое апранае святар або дыякан падчас набажэнстваў.
4. У якім годзе была заключана Брэсцкая ўнія?
5. Ахвяра першага забойства.
6. Сын святой Монікі.
7. Брат апостала Пятра.
8. Перад Пасхай – Вялікі пост, а перад Божым Нараджэннем…
9. Той, хто не ведае, існуе Бог ці не.
10. Заснавальнік манаскага жыцця на Захадзе.
11. Краіна Усходняй Царквы са сталіцай у Канстанцінопалі.
12. Кніга з Літургіяй Гадзін.
13. Фальшывы бог, якому часам пакланяліся ізраільцяне.
14. Месца працы апостала Пятра, сімвал Касцёла.
15. Калі святар адпраўляе дзве Імшы ў дзень, то гэта – ...
16. Чатырохвугольная шапка для духавенства.
17. Першая семінарыя ў сучаснай Беларусі з'явілася ў горадзе ...
18. Кардынал Казімір Свёнтэк пахаваны ў ...
19. Касцёл у Віцебску, былая катэдра, носіць імя св. ...
20. Месца мучаніцтва св. Андрэя Баболі.

Правільныя адказы на віктарыну на старонцы 8.

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 1001

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3500 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 16.02.2016 г. у 17.52

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:**
211800, вул. Савецкая, д.1,
г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь